Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

Магілёўская Акруговая
Калегія Абаронцаў

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

31 СЬНЕЖНЯ 1928 г.

№ 16 (59)

IV-ы год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК—1928

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

31 СЬНЕЖНЯ 1928 г.

**№ 16 (59)**

IV-ты год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК — 1928

# ЗЬМЕСТ

---

## ПАПРАЎКІ:

У **„Інструкцыі НКЗ і НКФ БССР пра парадак спагнаньня і залічэньня сум, якія паступаюць за земляўпарадчыя і пазямельна-рэгістрацыйныя работы“**, надрукаванай у Бюлетэні СНК БССР № 15 (58) за 1928 г. заўважаны наступныя памылкі:

1. У загалоўку Інструкцыі (стар 15) пасьля слоў: „пра парадак спагнаньня і залічэньня“ прапушчаны словы: „у даход скарбу“.

2. У п. 7-м (стар. 16) перад увагаю 1-ю (3-ці радок ад увагі) замест слоў: „На суму........р.......к.“ трэба паставіць словы: „Трэба выплаціць гатоўкай усяго суму....... р.......к.“.

3. Старонка 26, у § 55, у п. „б“ у першым радку замест слоў: „сумы нядоімка“ трэба паставіць: „сумы нядоімак“.

## 1. Пастанова Савету Народных Камісараў БССР

### па дакладу Горацкага Раённага Выканаўчага Камітэту Аршанскай акругі.

Выслухаўшы даклад Горацкага Раённага Выканаўчага Камітэту Аршанскай акругі, Савет Народных Камісараў БССР адзначае, што ў працы Раённага Выканаўчага Камітэту разам з дасягненьнямі, як: рост раённага бюджэту і здавальняючае выконваньне яго прыбытковай часткі за рахунак мясцовых прыбыткаў, чым зьменшаны датацыі да яго, у асноўным правільнае выконваньне пастаноў па пытаньнях нацыянальнай палітыкі, рост каперавaнага насельніцтва, ёсьць наступныя недахопы:

а) слаба ўцягнуты ў працу Раённага Выканаўчага Камітэту і саветаў працоўныя масы гораду і вёскі, нават і члены саветаў; рэдка склікаюцца і праводзяцца пасяджэньні пленумаў і прэзыдыумаў Раённага Выканаўчага Камітэту і саветаў; няма плянавасьці ў працы большасьці сельскіх саветаў; недастаткова праводзіцца справаздачнасьць Раённым Выканаўчым Камітэтам, гарадзкімі і сельскімі саветамі перад выбаршчыкамі; амаль зусім не працуюць камісіі сельскіх саветаў і большасьць сэкцый Гарадзкога Савету; заўважаецца вялікая цякучасьць асабовага складу старшынь і сакратароў сельскіх саветаў (зьмянілася каля 50%); не зварочваецца належная ўвага на больш шырокае ўцягненьне жанчын у практычную савецкую, каперацыйную і грамадзкую працу; да гэтага часу не разьмяжована маемасьць Гарадзкога Савету і Раённага Выканаўчага Камітэту;

б) мала зварочваецца ўвага на справу калектывізацыі сельскай гаспадаркі; слаба разгорнута праца для пераходу на шматпольле, у зьвязку з чым пры здавальняючым процанце земляўпарадкаванай плошчы (каля 65%) значную частку яе займае хутарская сыстэма з трохзьменным севазваротам; саветы і Раённы Выканаўчы Камітэт не кантралююць здачы зямлі насельніцтвам у арэнду; недастаткова зварочваецца ўвага на павялічэньне жывёлагадоўлі ў раёне, асабліва сьвінагадоўлі; слаба разгорнута праца для арганізацыі і дзейнасьці самых простых відаў сельска-гаспадарчай каперацыі (мэліярацыйных, торпавых, машынных і інш.); ня гледзячы на мажлівасьці, якія ёсьць у раёне, дзякуючы знаходжаньню ў г. Горках Сельска-Гаспадарчай Акадэміі, Раённым Выканаўчым Камітэтам ня ўжыты належныя захады да падняцьця ўраджайнасьці і наогул да больш шпаркага ўздыму сельскай гаспадаркі раёну; не вядзецца ніякая праца ў справе разгортваньня агнятрывалага будаўніцтва;

в) няма пляну разгортваньня мясцовай прамысловасьці і не зварочваецца амаль ніякая ўвага на палепшаньне існуючае;

г) шляхі зносін і тэлефонная сувязь знаходзяцца ў нездавальняючым становішчы;

д) слаба праведзена кампанія самаабкладаньня насельніцтва за мінулы год; мала скарыстана ініцыятыва насельніцтва ў будаваньні і рамонце школьных будынкаў;

е) ня ўжыты належныя захады Раённым Выканаўчым Камітэтам да сканчэньня пабудовы вэтэрынарнай лячэбніцы;

ж) недастаткова кіраваў Раённы Выканаўчы Камітэт рознымі грамадзкімі і каперацыйнымі арганізацыямі раёну;

з) ня гледзячы на вялікі жылішчны крызіс у гор. Горках у зьвязку з знаходжаньнем там Сельска-Гаспадарчай Акадэміі, да гэтага часу ня ўжыты захады да палепшаньня жылішчных умоў.

II. Каб зьнішчыць адзначаныя недахопы і палепшыць працу Горацкага Раённага Выканаўчага Камітэту і сельскіх саветаў, Савет Народных Камісараў БССР прапануе:

а) Аршанскаму Акруговаму Выканаўчаму Камітэту і Горацкаму Раённаму Выканаўчаму Камітэту больш шырока разгарнуць масавую працу саветаў і камісій пры саветах, ужыўшы захады да больш рэгулярнага плянавага склікацьня пленумаў Выканаўчага Камітэту і саветаў, практыкуючы правядзеньне іх у больш залюднёных пунктах. Плянава праводзіць устаноўленыя тэрміны справаздачнасьці Выканаўчага Камітэту і саветаў перад выбаршчыкамі; палепшыць кіраўніцтва і інструктаваньне Раённага Выканаўчага Камітэту і сельскіх саветаў і камісій пры іх. Пры правядзеньні перавыбарнай кампаніі саветаў асаблівую ўвагу зьвярнуць на праверку выкананьня саветамі наказаў выбаршчыкаў; своечасова ставіць перад выбаршчыкамі пытаньне аб адкліканьні членаў саветаў, якія не бяруць належнага ўдзелу ў працы саветаў; ужыць захады, каб у час перавыбараў саветаў быў выбраны больш сталы склад старшынь і сакратароў сельскіх саветаў; больш шырока практыкаваць вылучэньне на кіруючую савецкую і грамадзкую працу рабочых, батракоў і бедняцка-серадняцкую частку сялянства; зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўцягненьне жанчын; неадкладна разьмежаваць маемасьць паміж Раённым Выканаўчым Камітэтам і Гарадзкім Саветам;

б) Горацкаму Раённаму Выканаўчаму Камітэту пры дапамозе Народнага Камісарыяту Земляробства і Сельска-Гаспадарчай Акадэміі вывучыць вынікі ўжо праведзенага ў раёне земляўпарадкаваньня, з пункту погляду адпаведнасьці яго запатрабаваньням вядзеньня культурнай сельскай гаспадаркі; зьвярнуць большую ўвагу на працу па перасяленьні праз арганізацыю таварыстваў з перасяленцаў і дапамогу ім пры продажы маемасьці і пры здачы зямлі ў арэнду; разгарнуць працу да пераходу насельніцтва на калектыўныя формы землякарыстаньня, шматпольны севазварот, павялічэньня жывёлагадоўлі, асабліва сьвінагадоўлі; накіраваць у галіне сельскай гаспадаркі галоўную ўвагу на больш шпаркае падвышэньне ўраджайнасьці; ужыць захады да больш шырокай арганізацыі самых простых відаў сельска-гаспадарчай капярацыі (мэліарацыйных, торпавых, машынных і інш.) і да лепшага арганізацыйнага іх абслугоўваньня, а таксама да паступовага разгортваньня агнятрывалага будаўніцтва;

в) Горацкаму Раённаму Выканаўчаму Камітэту з дапамогаю Аршанскага Акруговага Выканаўчага Камітэту і Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі ўжыць захады да разгортваньня прамысловасьці для перапрацоўкі мясцовага сырцу і вырабу будаўнічых матар'ялаў;

г) Горацкаму Раённаму Выканаўчаму Камітэту пашырыць сетку ўсіх відаў каперацыйных аб'яднаньняў раёну, асабліва ўсіх відаў сельска-гаспадарчай капярацыі, ужыўшы захады да павялічэньня ўласных сродкаў капярацыі, больш шырокага каператаваньня насельніцтва і да лепшага яго абслугоўваньня капярацыяю;

д) Аршанскаму Акруговаму Выканаўчаму Камітэту і Галоўнаму Кіраўніцтву Шосаў і грунтовых дарог і аўтамабільнага транспарту БССР і Ўпаўнаважанаму Народнага Камісарыяту Пошт і Тэлеграфаў распрацаваць на працягу двох месяцаў і падаць у Дзяржаўную Плянавую Камісію плян палепшаньня шляхоў у раёне, а таксама і тэлефоннай сувязі;

е) Горацкаму Раённаму Выканаўчаму Камітэту больш уважліва падыйсьці да правядзеньня самаабкладаньня насельніцтва з пункту погляду вынясеньня сходамі рэальных пастаноў, своечасовага збору сродкаў і скарыстаньня іх на прызначэньне;

ж) Горацкаму Раённаму Выканаўчаму Камітэту ўжыць заходы да больш шпаркага разгортваньня будаўніцтва новых школ і рамонту старых школьных будынкаў за кошт бюджэтных сродкаў, а таксама і праз прыцягненьне насельніцтва да гэтай справы;

з) Горацкаму Раённаму Выканаўчаму Камітэту абавязкова скончыць на працягу наступнага году пабудову вэтэрынарнай лячэбніцы;

і) Цэнтральнаму Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі і Горацкаму Раённаму Выканаўчаму Камітэту неадкладна распачаць больш шырокае разгортваньне дзейнасьці сельскіх камітэтаў узаемадапамогі, большае ўцягненьне ў іх насельніцтва і лепшае абслугоўваньне беднаты;

к) Аршанскаму Акруговаму Выканаўчаму Камітэту і Беларускаму Камунальнаму Банку ў час складаньня плянаў жылішчнага будаўніцтва і разьмеркаваньня сродкаў на гэтую патрэбу на 1928-29 г., улічыць патрэбу пашырэньня жылішчнага будаўніцтва ў гор. Горках, бяручы пад увагу раскватэраваньне там пралятарскага студэнцтва Сельска-Гаспадарчай Акадэміі, а Горацкаму Раённаму Выканаўчаму Камітэту— ужыць патрэбныя заходы да ўпарадкаваньня дабрабыту і санітарнага становішча гораду;

л) даручыць Аршанскаму Акруговаму Выканаўчаму Камітэту прасачыць за выкананьнем пастаноў Савету Народных Камісараў за 14-15 мая 1926 г. (прат. № 59, п. 1016) і за 6 красавіка 1928 г. (прат. № 39, п. 514) адносна складаньня праектаў пабудовы электрычнай станцыі ў гор. Горках;

м) бяручы пад увагу тое, што ў раёне існуе вышэйшая навучальная ўстанова—Сельска-Гаспадарчая Акадэмія, якая павінна адыгрываць значную ролю ў агрыкультурных мерапрыемствах сельскай гаспадаркі усёй БССР, а асабліва, раёну,—даручыць Горацкаму Раённаму Выканаўчаму Камітэту і Сельска-Гаспадарчай Акадэміі ўжыць канкрэтныя заходы, каб гэты раён найбольш шпаркім тэмпам зрабіць паказальным у галіне сельскай гаспадаркі.

Старшыня Савету Народных Камісараў
БССР *М. Галадзед.*

Нам. Кіраўніка Спраў
Савету Народных Камісараў
і Эканамічнай Нарады БССР *Л. Дубавіцкі.*

28 лістапада 1928 г.
г. Менск.

## 2. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

**пра тэрмін разгляду працоўных спраў.**

*Копія—акруговым пракурорам, акруговым і народным судам і працоўным сэсіям.*

На падставе арт. 58 правілаў аб прымірыцельна-пасрэдніцкім і судовым разглядзе працоўных канфліктаў (З. З. СССР 1925 г., № 56, арт. 495) і для зьмены абежніку НКЮ БССР за 18 сьнежня 1925 г. № 94 пра ўстанаўленьне чаргі для разгляду спраў розных катэгорый, Народны Камісарыят Юстыцыі БССР прапануе працоўным сэсіям, народным і акруговым судам разглядаць усе працоўныя справы не пазьней як праз сем дзён ад дня атрыманьня іх.

Народны Камісар Юстыцыі БССР *А. Сташэўскі.*

27 кастрычніка 1928 г.
№ 82.

---

## 3. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

**пра перадачу спраў ліквідаваных дысцыплінарных судоў у агульныя судовыя ўстановы.**

*Акруговым пракурорам.*

На падставе пастановы Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР за 9 лютага 1928 г. „Пра ліквідацыю дысцыплінарных судоў“ (З. З. БССР 1928 г., № 9, арт. 64) справы гэтых судоў павінны быць перададзены ў агульныя судовыя ўстановы.

Паводле палажэньня аб парадку дысцыплінарнай адказнасьці (З. З. БССР 1928 г., № 22, арт. 223), увагі 2 да арт. 105 чыннага Крымінальнага Кодэксу (З. З. БССР 1928 г., № 22, арт. 224) і 2 ч. арт 213 Крым. Кодэксу рэдакцыі 1928 г., дысцыплінарныя меры накладаюцца толькі тады, калі па важнасьці зробленай службоваю асобаю правіннасьці будзе прызнана, што справу трэба разглядаць не ў судовым парадку.

Такім чынам, у агульныя судовыя ўстановы павінны перадавацца толькі тыя справы дысцыплінарных судоў, адносна якіх будзе прызнана, што яны павінны быць вырашаны ў судовым парадку, а іншыя справы павінны быць накіраваны ў адпаведныя ўстановы для разгляду на падставе палажэньня аб парадку дысцыплінарнай адказнасьці.

Каб ажыцьцявіць запісанае, Народны Камісарыят Юстыцыі БССР прапануе акруговым пракурорам пераглядзець нявырашаныя справы дысцыплінарных судоў і накіраваць іх згодна з запісанымі ў гэтым абежніку меркаваньнямі. Пажадана, каб у гэтым бралі ўдзел прадстаўнікі АВК і РСІ.

Вырашаныя ў дысцыплінарных судох справы павінны, да здачы іх у архіў, захоўвацца пры акруговым выканаўчым камітэце.

Аб выкананьні гэтага абежніку паведаміце Народны Камісарыят Юстыцыі.

Народны Камісар Юстыцыі
і Пракурор Рэспублікі *А. Сташэўскі.*

2 лістапада 1928 г.
№ 83.

---

## 4. Абежнік Народных Камісарыятаў Юстыцыі, Унутраных Спраў і Фінансаў БССР

**пра растлумачэньне арт. арт. 4 і 5 Інструкцыі НКЮ, НКУС і НКФ БССР пра парадак выкананьня рашэньняў па грамадзянскіх справах па пытаньні аб межах веданьня паасобных органаў выкананьня.**

*Усім акруговым і народным судам і ўсім органам выкананьня рашэньняў па грамадзянскіх справах.*

З тае прычыны, што ўзьнікаюць на практыцы паміж паасобнымі органамі выкананьня спрэчкі пры тлумачэньні арт. арт. 4 і 5 Інструкцыі НКЮ, НКУС і НКФ за 10 лістапада 1927 г. № 94 „Пра парадак выкананьня рашэньняў па грамадзянскіх справах“, апублікаванай у № 1-2 за 1928 г. часопісі НКЮ БССР „Рэвалюцыйная Законнасьць“, па пытаньнях аб межах веданьня паасобных органаў выкананьня і аб тым, з якога часу рашэньні і пастановы суду павінны выконвацца імі паводле гэтай Інструкцыі, Народныя Камісарыяты Юстыцыі, Унутраных Спраў і Фінансаў БССР прапануюць кіравацца наступнымі паказаньнямі:

1. Паводле арт. 4 паказанай інструкцыі, які вызначае межы веданьня паасобных органаў выкананьня, пры выкананьні імі рашэньняў па грамадзянскіх справах, усе органы выкананьня—судовыя выканаўцы, міліцыя і сельскія і мястэчковыя саветы—выконваюць рашэньні па грамадзянскіх справах або па беспасрэдных заявах спагнальнікаў, якія да іх зьвернуцца, або па асобных даручэньнях суду, пры гэтым выкананьне судовых рашэньняў па грамадзянскіх справах разьмяжоўваецца паміж органам выкананьня наступным парадкам:

а) сельскія і мястэчковыя саветы, на тэрыторыях якіх знаходзяцца камэры судовых выканаўцаў, выконваюць па беспасрэдных заявах спагнальнікаў усе спагнаньні да 15 руб., а іншыя спагнаньні—толькі па асобных даручэньнях народнага судзьдзі.

Сельскія і мястэчковыя саветы, на тэрыторыі якіх няма камэры судовага выканаўца, выконваюць усе спагнаньні незалежна ад сумы іх, г. зн. і да 15 руб. і больш 15 руб., па заявах спагнальнікаў, якія да іх зьвернуцца, або па асобных даручэньнях народнага судзьдзі;

б) органы міліцыі, якія знаходзяцца ў тым самым месцы, дзе ёсьць камэра судовага выканаўца, як правіла, ня выконваюць рашэньняў суду па беспасрэдных заявах спагнальнікаў, аднак, выконваюць іх па асобных даручэньнях народнага судзьдзі, незалежна ад сумы спагнаньня.

Органы міліцыі, якія знаходзяцца ў месцы, дзё няма камэры судовага выканаўца, выконваюць усе рашэньні суда, апроч спагнаньняў на суму ня больш 15 руб. ,якія яны павінны выконваць толькі па асобных даручэньнях народнага судзьдзі;

в) судовыя выканаўцы выконваюць рашэньні ў месцы свайго знаходжаньня па беспасрэдных заявах спагнальнікаў: а) у гарадох—на ўсялякую суму і б) на вёсцы—на сумы больш 15 руб., а на сумы меншыя і ў іншых сельскіх мясцох, у межах свайго раёну,—толькі па асобных даручэньнях народнага судзьдзі.

2. Іншыя сумы, паказаныя ў арт. 5 тае самай Інструкцыі, а ўласна—падаткі, гэрбавы збор, судовая мыта і інш., спаганяюцца па даручэньнях суду і разьмяжоўваюцца паміж органамі выкананьня, паводле гэтага артыкулу Інструкцыі, наступным чынам:

а) падатак, гэрбавы збор, штрафы і пеня за гэтыя падаткі і зборы, штрафы па прысудах, накладзеныя паводле адпаведных артыкулаў Крымінальнага Кодэксу, і штрафы, накладзеныя на падставе арт. арт. 49, 50, 51 і 52 Грамадзянска-Працэсуальнага Кодэксу, а таксама судо-

вын мыты, незалежна ад таго, з каго яны спаганяюцца—з ісца ці з адказчыка, калі адначасова з судовымі мытамі не спаганяюцца ніякія іншыя сумы, апроч паказаных у гэтым пункце, спаганяюцца ва ўсіх мясцох органамі міліцыі і

б) судовыя мыты, калі адначасова з імі спаганяюцца іншыя сумы, не паказаныя ў папярэднім пункце, напр., судовыя выдаткі і г. д., спаганяюцца: у мясцох знаходжаньня камэр судовых выканаўцаў—судовымі выканаўцамі, а ў іншых мясцох—органамі міліцыі.

3. Рашэньні і пастановы суда ў паказаным вышэй парадку, паводле правіл артыкулаў 4 і 5 паказанай Інструкцыі НКЮ, НКУС і НКФ, павінны выконвацца органамі выкананьня незалежна ад часу, калі было вынясена, або ўвайшло ў законную сілу рашэньне ці пастанова суда, або калі быў выданы судом спагнальніку выканальны ліст,—да ўвядзеньня ў дзеяньне паказанай Інструкцыі, або пасьля гэтага, а таксама і незалежна ад таго, ці знаходзілася ці не справа аб выкананьні данага рашэньня або пастановы суда раней у якога-небудзь іншага органа выкананьня, пры гэтым ніякія спрэчкі паміж органамі выкананьня не павінны дапушчацца.

Народны Камісар Юстыцыі БССР *А. Сташэўскі.*

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных
Спраў БССР *Я. Кроль.*

Народны Камісар Фінансаў БССР *В. Мікуліч.*

6 лістапада 1928 г.

---

## 5. Абежнік Народных Камісарыятаў Юстыцыі і Земляробства БССР

**пра ўжыцьцё некаторых захадаў у сувязі з арганізацыяю судоў пры сельскіх саветах і пра ўстанаўленьне сталага нагляду за іх дзейнасьцю і інструктаваньня іх.**

*Усім акруговым судам і акруговым зямельным камісіям.*

Паводле пастановы ЦВК і СНК БССР за 1 верасьня 1928 г. „Пра зацьверджаньне часовага палажэньня пра суды пры сельскіх саветах“ (З. З. БССР 1928 г., № 25, арт. 243) адначасна з выбарамі сельскіх саветаў на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі павінны быць выбраны і арганізаваны суды пры сельскіх саветах, па аднаму ў кожным раёне, пры гэтым нагляд за гэтымі судамі, паводле тае самае пастановы, ускладзен на НКЮ і НКЗ, а інструктаваньне і рэвізія іх, паводле арт. 24 Часовага палажэньня пра суды пры сельскіх саветах,—на народных судзьдзяў і раённыя зямельныя камісіі.

У адпаведнасьці з гэтым, акруговым судом і акруговым зямельным камісіям трэба зараз-жа ўжыць усе патрэбныя захады да таго, каб выбары судоў пры сельскіх саветах прыцягнулі да сябе найбольшую увагу з боку грамадзян, каб суды пры сельскіх саветах былі забясьпечаны належным, што адпавядае інтарэсам працоўных, складам судзьдзяў і каб праца іх адразу-ж, пасьля арганізацыі іх, атрымала належны кірунак і знаходзілася ў далейшым, асабліва ў пачатку дзейнасьці гэтых судоў, пад сталым наглядам і інструктаваньнем народных судзьдзяў і раённых зямельных камісій.

З гэтай прычыны НКЮ і НКЗ БССР прапануюць наступнае:

1. Зараз-жа распрацаваць і ўзгодніць паміж сабою і з акруговымі выканаўчымі камітэтамі патрэбныя захады для пастаноўкі на выбарчых сходах грамадзян перад выбарамі членаў судоў пры сельскіх саветах у тых сельскіх саветах, пры якіх будуць арганізаваны паказаныя суды, дакладаў працаўнікоў юстыцыі і зямельных камісій на тэму аб значэньні судоў пры сельскіх саветах і аб іх задачах.

2. Даручыць паказаным вышэй дакладчыкам у сваіх дакладах адзначыць важнасьць суда, як органу клясавай барацьбы, які мае на мэце абараняць асабовыя і маемасныя правы працоўных ад іх парушнікаў, і важнасьць спробы арганізацыі судоў пры сельскіх саветах, якія павінны ў найбольшай меры наблізіць суд да насельніцтва і зьнішчыць судовую цяганіну па дробных справах, а таксама падкрэсьліць важнасьць, з пункту погляду задач суда, выбар ў члены суда такіх асоб, якія сваім клясавым становішчам і сваім цьвярозым і чэсным жыцьцём карыстаюцца поўным давер'ем і аўтарытэтам сярод насельніцтва.

3. Распрацаваць і ўзгодніць з адпаведнымі органамі і арганізацыямі патрэбныя захады аб вылучэньні ў члены судоў пры сельскіх саветах кандыдатур з батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх пластоў сялянства і аб патрэбе ўцягненьня ў выбары судзьдзяў і ў выбары ў склад іх значнай колькасьці жанчын.

4. Даручыць народным судзьдзям і зямельным камісіям усіх раёнаў:

а) зараз-жа пасьля выбараў судоў пры сельскіх саветах склікаць у кожным раёне спэцыяльную нараду ў складзе выбраных у сельскім савеце старшыні суда, яго намесьніка і членаў суда пры сельскім савеце для падрабязнага азнаямленьня іх з „Часовым палажэньнем пра суды пры сельскіх саветах“, з правамі і абавязкамі старшыні, яго намесьніка і членаў суду і з усёю пастаноўкаю працы суда;

б) устанавіць сталую сувязь з судом пры сельскім савеце і сталы нагляд за яго дзейнасьцю, а таксама і інструктаваньне яго для зьнішчэньня ўсіх перашкод, якія могуць быць на шляху ажыцьцяўленьня ім сваіх задач.

5. Інструктуючы паказаныя вышэй суды, інструктары павінны мець на ўвазе, што суды пры сельскіх саветах пры выкананьні судовай працы павінны кіравацца часовым пра іх палажэньнем (З. З. БССР 1928 г., № 25, арт. 244), а таксама чыннымі законамі і загадамі вышэйшых за іх органаў ўлады.

У адпаведнасьці з гэтым, інструктары судоў пры сельскіх саветах (народныя судзьдзі і раённыя зямельныя камісіі) павінны:

а) дакладна вывучыць род і характар спраў, якія з прычыны мясцовых умоў будуць найбольш часта разглядацца ў судох пры сельскіх саветах, і, у залежнасьці ад гэтага, даць гэтым судом належныя паказаньні, у парадку вуснага інструктаваньня, аб тым, якімі нормамі права і загадамі органаў улады суды пры сельскіх саветах павінны кіравацца пры вырашэньні таго ці іншага роду спраў;

б) азнаёміць суды пры сельскіх саветах, у адпаведнасьці з правіламі, запісанымі ў часовым аб іх палажэньні, з асновамі савецкага грамадзянскага процэсу, з парадкам прыйманьня заяў ад грамадзян, з назначэньнем спраў для слуханьня, з парадкам выкліканьня і абвяшчэньня аб зьяўленьні ў суд старон і сьведак, з парадкам вядзеньня судовага пасяджэньня і вынясеньня рашэньня і г. д., а таксама з парадкам вядзеньня судовага справаводзтва.

Пры растлумачэньні парадку назначэньня спраў для слуханьня і выкліканьня і абвяшчэньня старон і сьведак аб дні слуханьня справы павінна быць паказана наступнае:

1) заявы ад грамадзян павінны прымацца старшынёю або яго намесьнікам або членамі суда ва ўсякім месцы, пры гэтым вусныя заявы павінны абавязкова запісвацца ў пратакол, які павінен быць падпісан асобаю, што прыняла заяву;

2) пасьля прыняцьця заявы член суда або старшыня і яго намесьнік павінны зараз-жа назначыць справу для слуханьня на адзін з дзён судовых пасяджэньняў, вызначаных прэзыдыумам сельскага савету, і абвясьціць аб гэтым, пад расьпіску на заяве або на пратаколе, старанам і сьведкам, дакладна паказаўшы месца, дзень і гадзіну слуханьня справы, а асобам, якім аб гэтым ня будзе магчымасьці абвясьціць паказаным парадкам, зараз-жа паслаць павесткі з такім разьлікам, каб яны былі адданы ім не пазьней дня судовага пасяджэньня;

3) прынятыя заявы або складзены пратакол, пасьля абвяшчэньня старанам і сьведкам аб дні слуханьня справы, павінны зараз-жа быць перададзены ў суд пры сельскім савеце—старшыні суду, або яго намесьніку.

Што-ж тычыцца пастаноўкі судовага справаводзтва, дык трэба заўважыць судом пры сельскіх саветах, што яны не павінны весьці пратаколу судовага пасяджэньня на кожную справу, а павінны толькі запісваць сваю пастанову па справе паводле арт. арт. 17 і 18 „Часовага палажэньня пра суды пры сельскіх саветах“, у якой, між іншым, паводле пункту „г“ арт. 18 паказанага палажэньня, замест пратаколу паказваць кароткі зьмест справы.

Каб найбольш спрасьціць справаводзтва судоў пры сельскіх саветах, трэба запрапанаваць ім не заводзіць асобных вокладак для кожнай справы, а весьці адну агульную „Кнігу пастаноў суду“, у якую і запісваць усе свае пастановы ў парадку разгляду спраў, адзначаючы кожную пастанову асобным парадкавым нумарам, пры гэтым заявы і іншыя паперы, якія тычацца разгледжаных спраў, павінны падшывацца пасьля ўваходу адпаведных пастаноў у законную сілу ў пасобную папку—нарад, у парадку нумароў пастаноў суду з адзнакамі на кожнай з іх нумару адпаведнай пастановы.

6. Акруговым судом і акруговым зямельным камісіям падаць у НКЮ і НКЗ БССР агульную справаздачу аб дзейнасьці судоў пры сельскіх саветах не пазьней 1 жніўня 1929 г. за тэрмін дзеяньня паказаных судоў з моманту іх арганізацыі да 1 ліпеня 1929 г., высьвятліўшы ў справаздачы: а) колькасьць арганізаваных у акрузе судоў пры сельскіх саветах, б) перашкоды, якія былі пры іх арганізацыі, в) зьвесткі аб асабовым складзе судоў пры сельскіх саветах па прыметах—партыйнасьці, сацыяльнага становішча (батракі, бедня́кі, серадня́кі і інш.) і полу (мужч. і жанч.), г) рух спраў (паступіла, скончана, асталося няскончаных) па асобных катэгорыях іх, паказаных у арт. 8 Часовага палажэньня пра суды пры сельскіх саветах, д) перашкоды, якія былі перад паказанымі судамі пры ажыцьцяўленьні ім свае працы і е) заключэньне аб мэтазгоднасьці захаваньня далейшага існаваньня інстытуту судоў пры сельскіх саветах.

Народны Камісар Юстыцыі БССР *А. Сташэўскі.*

Народны Камісар Земляробства БССР *З. Прышчэпаў.*

9 лістапада 1928 г.
№ 84.

## 6. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра растлумачэньне арт. VI пастановы Народных Камісарыятаў Працы і Юстыцыі БССР за 15 мая 1928 г. „Пра адказнасьць службовых і іншых асоб за парушэньні заканадаўства ў галіне найманьня, звальненьня і аплаты працы рабочых і служачых“.**

*Усім акруговым судам і акруговым пракурорам.*

У дадатак да арт. IV пастановы Народных Камісарыятаў Працы і Юстыцыі БССР за 15 мая 1928 г. пра адказнасьць службовых і іншых асоб за парушэньні заканадаўства ў галіне найманьня, звальненьня і аплаты працы рабочых і служачых, а таксама за невыкананьне пастаноў судовых і канфліктных органаў па працоўных справах, Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Працы БССР растлумачваюць, што, пры вырашэньні пытаньняў аб аднаўленьні на пасадзе ці працы неправільна зволненых работнікаў, суды павінны кіравацца арт. 72 правілаў аб прымірыцельна-пасрэдніцкім і судовым разглядзе працоўных канфліктаў (З. З. СССР 1928 г., № 56, арт. 495) і ў дачыненьні да права суда ўскласьці па сваей ініцыятыве на службовых асоб абавязак адплаты зробленай прадпрыемству ці ўстанове страты і ў дачыненьні да разьмеру гэтай адплаты.

Народны Камісар Юстыцыі БССР *А. Сташэўскі.*

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*

14 лістапада 1928 г.
№ 87.

---

## 7. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

**пра парадак уручэньня павестак аб разлуцы асобам, якія жывуць за межамі Саюзу ССР.**

*Усім органам ЗАГС.*

У практыцы органаў ЗАГС узьнікла пытаньне аб тым, у якім парадку трэба рэгістраваць разлукі, калі заява аб разлуцы падаецца адным супругам і калі другі супруг жыве за межамі Саюзу ССР.

Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР прапануюць органам ЗАГС, пры вырашэньні імі пастаўленага вышэй пытаньня, кіравацца наступнымі паказаньнямі:

1. Паводле арт. 28 Кодэксу законаў аб шлюбе, сям'і і апецы (З. З. БССР 1927 г., № 7, арт. 26) шлюб пры жыцьці супругаў можа быць скасаваны і па згодзе супругаў і па жаданьні аднаго з іх.

2. Парадак рэгістрацыі разлукі паводле заявы аднаго з супругаў устанаўляецца артыкулам 21 і ўвагаю да яго і дадатку да Кодэксу законаў аб шлюбе, сям'і і апецы, незалежна ад таго, ці жыве адзін з супругаў за межамі альбо ў межах тэрыторыі Саюзу ССР, чаму гэты парадак захоўваецца ва ўсякім разе.

3. Супруг, які падае заяву аб разлуцы, павінен магчыма дакладней паказаць адрэс другога супруга; на гэты адрэс і пасылаюцца і павестка і копія запісу аб зробленай рэгістрацыі разлукі.

4. Калі супруг, аб скасаваньні шлюбу з якім падана заява (арт. 28 Кодэксу законаў аб шлюбе, сям'і і апецы), жыве за межамі Саюзу ССР, то орган ЗАГС павінен накіраваць павестку аб скасаваньні шлюбу, а потым і копію запісу аб рэгістрацыі разлукі, Упаўнаважанаму Народнага Камісарыяту Замежных Спраў пры Ўрадзе БССР для уручэньня адпаведным консулу ці консульскаму агэнту аб уручэньні іх у парадку, прадугледжаным арт. 21 і дадатку да Кодэксу законаў аб шлюбе, сям'і і апецы, бо паводле арт. 57 Консульскага Статуту (З. З. Саюзу ССР 1926 г., № 10, арт. 78) консулы і консульскія агэнты вядуць акты грамадзянскага стану грамадзян Саюзу ССР на падставе законаў адпаведнай саюзнай рэспублікі.

5. Калі адрэс супруга, які жыве за межамі Саюзу ССР, паказан ня поўна, напрыклад, не паказана вуліца і нумар дому, у якім жыве супруг, то консул ці консульскі агэнт, паводле арт. 33 Консульскага Статуту і арт. 21 дадатку I да Кодэксу законаў аб шлюбе, сям'і і апецы, павінен ужыць усе залежныя ад яго захады для ўстанаўленьня дакладнага адрэсу асобы, якой уручаецца павестка.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *Я. Бутар.*

Нам. Народнага Камісара Унутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

15 лістапада 1928 г.

---

## 8. Абежны ліст Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР пра справы аб растратах.

*Усім акруговым судом і акруговым пракурорам.*

Народным Камісарыятам Юстыцыі не адзін раз ужо, пачынаючы з 1925 году, даваліся дырэктывы аб патрэбе ўжыць усе захады да хуткага праходжаньня крымінальных спраў аб растратах у органах суда, сьледзтва і пракуратуры, маючы на ўвазе пашыранасьць і вялікую сацыяльную небясьпечнасьць гэтага віду злачынстваў.

Даныя аб паступленьні гэтых спраў паказваюць, што лік іх увесь час павялічваецца: так, у судовыя ўстановы БССР у 1925 годзе паступіла, паводле арт. 113 Крымін. Кодэксу (рэд. 1922 г.)—960 спраў, у 1926 г.—1932 справы, у 1927 г.—2364 справы і за першую палову 1928 г.—980 спраў; такім чынам за 1-ыя 6 месяцаў 1928 г. спраў аб растратах паступіла больш, чымся за ўвесь 1925 г.

Адначасова павялічылася колькасьць асуджаных за гэтыя злачынствы: у 1926 годзе было асуджана за растраты 669 чал., а ў 1927 г.—812 чал., павялічэньне на 21,4 проц.

Трэба адзначыць, што значная частка з агульнага ліку спраў аб растратах спыняецца з прычыны браку довадаў, малаважнасьці і г. д., а ўласна ў 1926 годзе было спынена 38,7 проц. усіх спраў, якія паступілі ў суды аб растратах, а ў 1927 г.—42,3 проц. усіх спраў.

Усё паказанае сьведчыць аб тым, што на гэтую катэгорыю спраў павінна быць зьвернута ўвага ўсіх судовых, сьледчых і пракурорскіх органаў, у паасобку, Народны Камісарыят Юстыцыі БССР лічыць патрэбным:

1. Дакладна выконваць тэрміны аб руху спраў пра растраты, прадугледжаныя абежнікам НКЮ № 94—1925 г., паводле якога гэтыя справы назначаюцца для слуханьня ў першую чаргу.

2. Рашуча палепшыць якасьць сьледзтва па справах аб растратах, маючы на мэце поўнае выкрыцьцё ўсіх гэтых злачынстваў.

3. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на справы аб растратах у капярацыі, у якой яны да гэтага часу значна пашыраны.

4. Вакол найбольш характэрных спраў трэба стварыць грамадзкую думку праз разгляд спраў на мясцох, шырока ўцягваючы насельніцтва і асьвятляючы ў друку.

5. Практыкаваць вынясеньне пастаноў, у якіх даводзіць да ведама адпаведных органаў аб тых недахопах у працы, якія стварылі магчымасьць учыненьня растрат.

Народны Камісар Юстыцыі БССР
і Пракурор Рэспублікі *А. Сташэўскі.*

20 лістапада 1928 г.
№ 89.

---

## 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

**пра зьмену пастановы НКЮ і НКФ БССР за 16 студзеня 1928 г. № 13 „Пра выдачу даверанасьцяй на вядзеньне судовых спраў на імя юрыдычных асоб і пра аплату даверанасьцяй, якія выдаюцца на імя некалькіх асоб“.**

*Усім судовым органам і натарыяльным канторам.*

Бяручы пад увагу, што на падставе п. „і“ § 2 Статуту Акцыйнага Таварыства для выдачы даведак крэдытаздольнасьці „Крэдыт-Бюро“ (З. З. Саюзу ССР 1926 г., II ч., № 14, арт. арт. 99-100), паказанае таварыства мае права заяўляць у судзе іскі ад імя сваіх кліэнтаў на падставе транспартных дакумэнтаў, выканальных лістоў, вэксалёў і інш. гэтакіх дакумэнтаў і што гэтае права, дадзенае „Крэдыт-Бюро“ спэцыяльным законам, зьяўляецца выключэньнем з агульнага правіла, паказанага ў арт. 16 Грамадзянска-Працэсуальнага Кодэксу, Народныя Камісарыяты Юстыцыі і Фінансаў БССР пастанаўляюць прызнаць:

1) што палажэньне, паказанае ў пункце 2 памянёнай вышэй пастановы за 16 студзеня 1928 г. № 13 (Бюлетэнь СНК БССР 1928 г. № 2), не пашыраецца на тыя юрыдычныя асобы, напрыклад, Акцыйнае таварыства „Крэдыт-Бюро“, якім на падставе іх статутаў даецца права быць даверанымі на судзе, і

2) што такія юрыдычныя асобы могуць, як вынятак з правіла арт. 16 ГПК БССР, дапушчацца ў якасьці давераных у судзе толькі для вядзеньня такіх спраў, якія прадугледжаны іх статутамі альбо спэцыяльным законам.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *Я. Бутар.*

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР *Л. Бунін.*

25 лістапада 1928 г.
№ 91.

---

## 10. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Цэнтральнай Статыстычнай Управы БССР

### пра своечасовую і поўную пасылку статыстычных лісткоў на асуджаных.

*Усім акруговым і народным судам, акруговым статыстычным бюро і раённым статыстыкам.*

Ня гледзячы на шэраг прапаноў НКЮ і ЦСУ аб своечасовай і поўнай пасылцы судовымі органамі ў органы ЦСУ статыстычных лісткоў на асуджаных, непасылка іх у паказаныя органы складае значны процант, дасягаючы ў дачыненьні да агульнай колькасьці асуджаных, прысуды аб якіх увайшлі ў законную сілу, у першую палову 1928 г. па Рэспубліцы 20%, а па некаторых паасобных акругах і больш таго: напрыклад, па Менскай 36%, Магілеўскай 34%, Бабруйскай—25% і г. д.

Гэткае зьявішча вельмі дрэнна адбіваецца на своечасовасьці распрацоўкі паказаных лісткоў і на паўнаце вынікаў гэтае распрацоўкі, што ў значнай меры зьмяншае іх каштоўнасьць.

З прычыны паказанага вышэй і бяручы пад увагу важнае значэньне крымінальнай статыстыкі для своечасовага вывучэньня стану злачыннасьці і яе фактараў, для правільнага накіраваньня крымінальнай палітыкі, Народны Камісарыят Юстыцыі і Цэнтральная Статыстычная Управа, на падставе згоды іх за 26 жніўня 1927 г. № 81 (Весьці НКЮ 1927 г. № 9—10, частка афіцыйная, стар. IV), прапануюць наступнае:

1. Акруговым і народным судом:

а) зараз-жа ўжыць патрэбныя захады да поўнай дасылкі ў акруговыя статыстычныя бюро ўсіх недасланых у 1928 годзе статыстычных лісткоў на асуджаных, прысуды аб якіх увайшлі ў законную сілу, незалежна ад назначанай асуджанаму меры сацыяльнае абароны і ад таго, у якім парадку быў вынесен прысуд—у звычайным, завочна, ці ў парадку судовага загаду;

б) пасылаць у далейшым у акруговыя статыстычныя бюро, не пазьней 1 дня кожнага месяца, статыстычныя лісткі на ўсіх асуджаных, прысуды аб якіх увайшлі ў законную сілу ў мінулы месяц і, накіроўваючы паказаныя лісткі ў акруговае статыстычнае бюро, строга сачыць за тым, каб колькасьць лісткоў на асуджаных, якая будзе пасылацца ў акруговае статыстычнае бюро, кожны раз у поўнай меры (на 100%) адпавядала колькасьці асуджаных асоб, у дачыненьні да якіх прысуды ўвайшлі ў законную сілу ў мінулы месяц, дзеля чаго ў пасылальных паперах на імя статыстычнага бюро, у якія пасылаюцца статыстычныя лісткі на асуджаных, дакладна вызначаць, за які месяц пасылаюцца паказаныя лісткі, колькі іх і ў дачыненьні да якой колькасьці асуджаных прысуды ўвайшлі ў законную сілу ў той месяц, за які пасылаюцца статыстычныя лісткі;

г) складаючы „падліковую картку“ паводле формы № 1 аб руху крымінальных спраў, якая павінна падавацца судовымі органамі кожнае паўгодзьдзе, паводле абежніку НКЮ за 6 красавіка 1928 г. № 46, строга правяраць кожны раз, ці адпавядае лік асуджаных, у дачыненьні да якіх прысуды ўвайшлі ў законную сілу, у апошняй графе паказанай „падліковай карткі“ ліку лісткоў на асуджаных, фактычна адасланых у акруговае статыстычнае бюро ў справаздачнае паўгодзьдзе, і калі выявіцца неадпаведнасьць гэтых даных паміж сабою, зараз-жа ўжываць належныя захады да выяўленьня прычын гэтай неадпаведнасьці і, калі яна будзе тлумачыцца недасылкаю з тых ці іншых прычын усіх статыстычных лісткоў, да дасылкі іх у акруговае статыстычнае бюро адначасова з пасылкаю паказанай вышэй падліковай карткі паводле формы № 1.

2. Акруговым статыстычным бюро і раённым статыстыкам уважліва сачыць праз сыстэматычнае наведваньне акруговых і народных судоў за поўнай і сваечасовай пасылкаю судовымі органамі статыстычных лісткоў на асуджаных, а таксама і за правільным запаўненьнем іх, і, калі будуць заўважаны якія-небудзь недахопы ў гэтым кірунку, зараз-жа ўжываць належныя захады да іх зьнішчэньня, кіруючыся п. п. 4 і 5 паказанай вышэй згоды НКЮ і ЦСУ за 26 жніўня 1927 г. № 81.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *Я. Бутар.*

Выконв. абав. Кіраўніка Цэнтральнай Статыстычнай Управы БССР *М. Пайкін.*

22 сьнежня 1928 г.
№ 96.

---

Узгоднена з ЦСПСБ і НК Фінансаў БССР.

## 11. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра скасаваньне сваіх пастаноў, інструкцый і тлумачэньняў па пытаньнях сацыяльнага страхаваньня, выданых да 1-га кастрычніка 1928 г., якія фармальна не скасаваны, але па сутнасьці страцілі сілу з прычыны выданьня новых законаў.**

Народны Камісарыят Працы БССР, у дадатак да свае пастановы за 5 мая 1928 г. № 331 (Бюлетэнь СНК БССР 1928 г., № 6) пастанаўляе скасаваць наступныя свае пастановы, інструкцыі і тлумачэньні па пытаньнях сацыяльнага страхаваньня, выданыя да 1-га кастрычніка 1928 г., якія фармальна не скасаваны, але па сутнасьці страцілі сілу з прычыны выданьня новых законаў:

| чарг. №№ | Дата выданьня | Зьмест | Дзе апублікав. | З якога часу страцілі сілу |
|---|---|---|---|---|
| 1. | 15 студзеня 1925 г. | Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР „Пра абавязковае паданьне органам сацыяльнага страхаваньня наймальнікамі прадпрыемстваў, устаноў і гаспадарак, якія ўжываюць наймовую працу, зьвестак аб колькасьці занятых у іх рабочых і служачых, аб выплачанай заработнай плаце і належачых страхавых уносах". | З. З. БССР 1925 г. № 17, арт. 154. | З часу выданьня інструкцыі Саюзнага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП СССР за 14 сьнежня 1927 г. № 433 („Изв. НКТ" 1928 года № 7/8). |
| 2. | 29 красавіка 1925 г. | Інструкцыя Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР пра ўжываньне пастановы ЦВК і СНК СССР за 15 студзеня 1925 году „Пра пэнсійнае забясьпечаньне настаўнікаў школ 1 ступені, сельскіх, гарадзкіх і іншых работнікаў асьветы на вёсцы". | Бюлетэнь СНК БССР 1925 г. № 2. | З часу выданьня інструкцыі НК Працы і НК Фінансаў СССР за 8 чэрвеня 1928 г. № 341 („Изв. НК Труда" 1928 г. № 27. |
| 3. | 2 ліпеня 1925 г. | Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР „Пра парадак назначэньня і выплаты пэнсій за выслугу гадоў работнікам асьветы на транспарце". | Бюлетэнь СНК БССР 1925г.№2. | |
| 4. | жніўня 1925 г. | Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР „Пра зьмену арт. 13 інструкцыі НК Працы і НК Фінансаў БССР за 2 ліпеня 1925 г. пра ўжываньне пастановы ЦВК і СНК СССР за 15 студзеня 1925 г. „Пра пэнсійнае забясьпечаньне настаўнікаў". | Бюлетэнь СНК БССР 1925 г. № 4. | |

| Чарг. №№ | Дата выданьня | Зьмест | Дзеапублік. | З якога часу страцілі сілу |
|---|---|---|---|---|
| 5. | 5 мая 1925 г. | Пра выдачу дапамог і дачу ільгот па беспрацоўі. | — | З часу выданьня пастаноў Саюзнага Савету Сац. Стр. пры НКП СССР за 19 мая 1927 г. № 128 („Изв. НК Труда" 1927 г. № 24) і за 14 сьнежня 1927 г. № 407 („Изв. НК Труда" 1928 г. № 1/2). |
| 6. | 30 чэрвеня 1925 г. № 5184. | Інструкцыя НКПрацы БССР „Пра парадак назначэньня пэнсій". | Бюлетэнь СНК БССР 1925 г. № 3. | З часу выданьня пастановы Саюзнага Савету Сац. Страхаваньня пры НКП СССР за 4 ліпеня 1928 г. № 396 („Изв. НК Труда" 1928 г. № 28/29). |
| 7. | 15 кастрычніка 1925 г. | Інструкцыя НКПрацы БССР „Пра парадак устанаўленьня працоўнага стажу інвалідаў працы". | З. З. БССР 1925 г. № 42, арт. 353. | |
| 8. | 20 студзеня 1928 г. | Пастанова НКПрацы БССР „Пра зьмену арт. 19 інструкцыі НКП БССР за 30 чэрвеня № 5184 „Пра парадак назначэньня пэнсій". | Бюлетэнь СНК БССР 1928 г. № 2. | |

Нам. Народнага Камісара Працы
БССР *Я. Меркулаў.*
Сакратар Народнага Камісарыяту
Працы БССР *А. Круглік.*

7 сьнежня 1928 г.
№ 77.

---

## 12. Пастанова Народных Камісарыятаў Працы і Юстыцыі БССР

**пра зьмену арт. 3 свае пастановы за 16 чэрвеня 1928 г. № 41 „Пра аплату за работу ў сьвяточныя, асобныя і штотыднёвыя дні адпачынку".**

У адпаведнасьці з „Правіламі пра прымірыцельна-пасрэдніцкі і судовы разгляд працоўных спрэчак" (З. З. СССР 1928 г., № 56, арт. 495) Народныя Камісарыяты Працы і Юстыцыі БССР пастанаўляюць запісаць арт. 3 свае пастановы за 16 чэрвеня 1928 г. № 41 (Бюлетэнь СНК БССР 1928 г. № 7) у наступнай рэдакцыі:

„Права на іск аб аплаце за работу ў сьвяточныя, асобныя і штотыднёвыя дні адпачынку спыняецца ў тэрміны, устаноўленыя „Правілямі пра прымірыцельна-пасрэдніцкі і судовы разгляд працоўных спрэчак" для падачы заяў на разгляд па пытаньнях аплаты звыштэрміновай працы".

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*
Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *С. Гохман.*

15 сьнежня 1928 г.
№ 79.

---

## 13. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра падачу скарг на пастановы РКК.**

*Усім Акруговым Інспэкцыям Працы.*

З тае прычыны, што арт. 37 новага закону аб міравым і пасрэдніцка-судовым парадку разбору працоўных канфліктаў, зацьверджанага ЦВК і СНК СССР 29/VIII—1928 г. (З. З. СССР 1928 г. № 56, арт. 445), прадугледжвае, як канчатковую інстанцыю нагляду за пастановамі расцэначна-канфліктных камісій, акруговы орган працы, Народны Камісарыят Працы БССР прапануе далей ніякіх матар'ялаў па скаргах на пастановы РКК, калі яны разгледжаны ў парадку нагляду мясцовымі органамі (інсп. працы), у НК Працы не накіроўваць.

Пасланыя нам неспасрэдна зацікаўленымі асобамі альбо ўстановамі скаргі будуць зварочвацца без разгляду.

Аб гэтым Вам трэба паведаміць скаргнікаў, якія зварочваюцца да Вас па такіх справах, і мясцовыя саюзныя органы.

Гэтае распараджэньне не датычыцца скарг на пастановы міравых камэр і пасрэдніцкіх судоў, парадак нагляду за якімі прадугледжаны арт. 37 паказанага вышэй закону за 29/VIII—1928 г.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*

Ст. Праўны Інспэктар Народнага
Камісарыяту Працы БССР *Х. Гольдзінберг.*

15 сьнежня 1928 г.
№ 80.

---

## 14. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра разьмеры аплаты рабочай і гужавой сілы, якая прыцягваецца ў парадку працоўнай павінасьці для змаганьня з сьнежнымі завеямі на 1928-29 гаспадарчы год.**

На падставе арт. 7 „Палажэньня пра парадак прыцягненьня насельніцтва да працоўнай і транспартнай павінасьці“ (З. З. БССР 1928 г., № 12, арт. 97) Народны Камісарыят Працы БССР паведамляе, што Эканамічнаю Нарадаю пры СНК БССР зацьверджаны наступныя, устаноўленыя НК Працы БССР па згодзе з ЦСПСБ, стаўкі аплаты рабочай і гужавой сілы, якая прыцягваецца ў парадку працоўнай і транспартнай павінасьці для змаганьня з сьнежнымі завеямі на 1928-29 гаспадарчы год: для рабочай сілы—1 р. 20 кап. у дзень на вузлавых станцыях і 1 руб. у іншых мясцовасьцях; для гужавой сілы—у падвойным разьмеры.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР *А. Круглік.*

22 сьнежня 1928 г.
№ 81.

---

## 15. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра парадак запаўненьня больнічных лістоў.**

На падставе пастаноў Калегіі НК РСІ СССР за 4 мая 1928 г. і НК РСІ БССР за 3 лістапада 1928 г., каб спросьціць парадак выдачы дапамог па часовай непрацаздольнасьці на прадпрыемствах і ўстановах і каб змагацца з злаўжываньнямі з больнічнымі лістамі, што падаюцца для аплаты ў страхавыя касы, Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Усе дзяржаўныя, грамадзкія, каперацыйныя і прыватныя прадпрыемствы і ўстановы павінны вылучыць з ліку сваіх работнікаў спэцыяльную асобу, якая адказвае за правільнае запаўненьне зьвестак аб заработнай плаце ў больнічных лістох.

Узоры подпісаў гэтых асоб, штампаў і пячатак прадпрыемстваў і ўстаноў павінны быць паданы на працягу двох тыдняў ад дня апублікаваньня гэтай пастановы ў адпаведную акруговую страхавую касу ў месцы знаходжаньня прадпрыемстваў альбо ўстаноў.

2. У больнічным лісьце павінны быць дакладна паказаны патрэбныя зьвесткі аб заработнай плаце. Гэтыя зьвесткі павінны быць падпісаны ўпаўнаважанымі прадпрыемстваў і ўстаноў, вылучанымі паводле арт. 1 гэтай пастановы, і засьведчаны пячаткаю прадпрыемства альбо ўстановы.

3. Усе прадпрыемствы і ўстановы, на якіх дапамога на часовай непрацаздольнасьці выплачваецца паводле абежніку НК Працы СССР за 22 верасьня 1928 г. № 553 „Пра арганізацыю выплаты на прадпрыемствах і ўстановах дапамог па часовай непрацаздольнасьці, што назначаюцца страхавымі касамі“ („Изв. НК Труда“ 1928 г. № 43), павінны:

а) зараз-жа пасьля засьведчаньня імі больнічных лістоў накіраваць іх у страхавыя касы;

б) калі няма ў час выплаты арцельшчыкамі страхавых кас некаторых рабочых і служачых, якім павінна быць выплачана дапамога па часовай непрацаздольнасьці, прымаць ад арцельшчыкаў грошы паводле больнічных лістоў для перадачы іх адсутным рабочым і служачым.

4. Адміністрацыя ўсіх прадпрыемстваў і ўстаноў павінна сваячасна засьвядчаць больнічныя лісты на атрыманьне застрахованымі дапамогі па часовай непрацаздольнасьці.

5. Абавязаць страхавыя касы пэрыядычна інструктаваць рахункаводны пэрсанал устаноў і прадпрыемстваў аб парадку засьведчаньня больнічных лістоў.

6. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. арт. 139 і 200 Крым. Кодэксу БССР.

7. З часу выданьня гэтай пастановы касуецца пастанова НК Працы БССР за 30 красавіка 1926 г. № 29 „Пра парадак запаўненьня больнічных аркушаў“ (Бюлетэнь СНК БССР 1926 г. № 6).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР *А. Круглік.*

24 сьнежня 1928 г.
№ 82.

---

## 16. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР

**пра зьмену свае інструкцыі за 10 красавіка 1926 г. „Аб парадку ўтварэньня, рэгістрацыі і ліквідацыі працоўных арцеляў“.**

У адпаведнасьці з пастановаю ЦВК СНК БССР за 3 мая 1928 г. „Пра зьмену арт. арт. 10, 11, 12 „Палажэньня аб працоўных арцелях“ 1 п. „о“ „Палажэньня аб інспэкцыях мясцовай прамысловасьці АВК“ (З. З. БССР 1928 г., № 16, арт. 143) Народны Камісарыят Працы і Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі БССР пастанаўляюць зрабіць наступныя зьмены ў сваёй інструкцыі за 10 красавіка 1926 г. „Аб парадку ўтварэньня, рэгістрацыі і ліквідацыі працоўных арцеляў“ (Бюл. СНК БССР 1926 г. № 6).

I. Арт. арт. 1, 4, 5, 6, 7 запісаць у наступнай рэдакцыі:

1. Статуты працоўных арцеляў рэгіструюцца інспэкцыямі мясцовай прамысловасьці акруговых выканаўчых камітэтаў.

4. Інспэкцыя мясцовай прамысловасьці на працягу трох дзён пасьля атрыманьня заявы пасылае 1 экзэмпляр статуту для заключэньня ў акруговую інспэкцыю працы, якая на працягу тыдня павінна даць заключэньне ці мэтазгодна ўтвараць арцель пры існуючым стане рынку працы ў данай мясцовасьці.

5. Атрымаўшы паказанае ў папярэднім артыкуле заключэньне, інспэкцыя мясцовай прамысловасьці на працягу двох тыдняў павінна разглядзець заяву аб рэгістрацыі.

6. Калі акруговая інспэкцыя працы не супярэчыць супроць утварэньня працоўнай арцелі і калі статут не супярэчыць чыннаму заканадаўству, дык ён рэгіструецца; у адваротным выпадку інспэкцыя мясцовай прамысловасьці ці адмаўляецца рэгістраваць статут, ці варочае яго закладчыкам для дабаўленьня альбо зьмены.

7. Разнагалосьсі паміж акруговаю інспэкцыяю працы і інспэкцыяю мясцовай прамысловасьці вырашаюцца Вышэйшым Саветам Народнай Гаспадаркі з удзелам прадстаўніка НКПрацы БССР. Такім самым парадкам вырашаюцца і скаргі закладчыкаў на адмаўленьне інспэкцыі мясцовай прамысловасьці зарэгістраваць статут.

II. У арт. 12, п. „д“, арт. 13, увазе да арт. 13, арт. 19 і ў увагах да яго, у арт. арт. 20, 25 замест „саматужна-прамысловая сэкцыя ВСНГ БССР“ запісаць „інспэкцыю мясцовай прамысловасьці акруговага выканаўчага камітэту“.

III. У арт. 13 замест „Камісію запісу пры ВСНГ БССР“ запісаць: „інспэкцыю мясцовай прамысловасьці акруговага выканаўчага камітэту“.

IV. У арт. 18 замест „ВСНГ БССР“ запісаць: „інспэкцыі мясцовай прамысловасьці акруговага выканаўчага камітэту“.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*

Нам. Старшыні ВСНГ БССР *І. Стракоўскі.*

24 сьнежня 1928 г.
№ 83.

---

## 17. Пастанова Народных Камісарыятаў Працы, Фінансаў і Юстыцыі БССР

**пра скасаваньне свае пастановы за 5 верасьня 1925 году „Пра аслабаненьне ад платы натарыяльнымі зборамі дагавароў, якія заключаюцца аддзеламі і камэрамі інспэкцыі працы з дзяржаўнымі органамі на вядзеньне грамадзкіх работ“.**

З тэй прычыны, што пастанова СНК БССР за 15 мая 1928 г. „Пра аплату натарыяльных дзеяньняў і тэхнічных паслуг натарыяльных кантор“ (З. З. БССР 1928 г., № 18, арт. 174) прадугледжвае, што з дагавораў, якія заключаюцца інспэкцыямі працы з дзяржаўнымі органамі на вядзеньне грамадзкіх работ, натарыяльны збор не бярэцца— Народныя Камісарыяты Працы, Фінансаў і Юстыцыі БССР пастанаўляюць лічыць скасаванаю сваю пастанову за 5 верасьня 1925 г. „Пра аслабаненьне ад аплаты натарыяльнымі зборамі дагавароў, якія заключаюцца аддзеламі і камэрамі інспэкцыі працы з дзяржаўнымі органамі на вядзеньне грамадзкіх работ“ (З. З. БССР 1925 г. № 44, арт. 359).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР *Л. Бунін.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Гохман.*

25 сьнежня 1928 г.
№ 84.

## 18. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**„Пра зьмену ўвагі да арт. 14 і арт. 15 свае інструкцыі за 30 красавіка 1928 г. № 31 „Пра ўжываньне пастановы ЦВК і СНК СССР за 14 студзеня 1927 г. „Пра службовыя камандыроўкі ў мяжох СССР“.**

На падставе пастановы ЦВК і СНК СССР за 8 жніўня 1928 г. „Пра зьмену пастановы ЦВК і СНК СССР за 14 студзеня 1927 г. „Пра службовыя камандыроўкі ў мяжох СССР“ (З. З. СССР 1928 г., № 49, арт. 439) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

I. Запісаць увагу да арт. 14 свае інструкцыі за 30 красавіка 1928 г. № 31 пра ўжываньне паказанай вышэй пастановы ЦВК і СНК СССР за 14 студзеня 1927 г. (Бюлетэнь СНК БССР 1928 г., № 6) у наступнай рэдакцыі: „Выдаткі на найманьне памяшканьня (калі такое не дадзена бясплатна) аплачваюцца па згодзе старон“.

II. Арт. 15 інструкцыі запісаць так:

„Для камандыровак, прадугледжаных п. п. „а“, „в“, „г“ арт. 8 пастановы ЦВК і СНК СССР, мінімальны разьмер сутачных устанавіць 2 р. 50 кап., для камандыровак, прадугледжаных п. „б“ арт. 8,— 1 р. 25 кап.“.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР *А. Круглік.*

26 сьнежня 1928 г.
№ 85.

---

## 19. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра зьмену арт. 22 свае пастановы за 1-га красавіка 1927 г. № 50 „Аб парадку найманьня і ўмовах працы грамадзкіх пастухоў і падпаскаў“.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе запісаць арт. 22 свае пастановы за 1 красавіка 1927 г. № 50 „Аб парадку найманьня і ўмовах працы грамадзкіх пастухоў і падпаскаў“ (Бюлетэнь СНК БССР, 1927 г., № 7) у наступнай рэдакцыі:

„Спрэчкі, што ўзьнікаюць на грунце ўжываньня наймовае працы пастухоў і падпаскаў пра ўстанаўленьне ўмоў найманьня (заключэньне дагавароў) альбо пра зьмену ўмоў, устаноўленых раней пісанымі і вуснымі дагаворамі, а таксама пра парадак разрахункаў паводле дагавору, разглядаюцца ў міравых камісіях, якія арганізуюцца пры раённых выканаўчых камітэтах альбо пры сельскіх саветах паводле інструкцыі НКП, НКЮ і НК Унутраных Спраў БССР за 13 жніўня 1928 г. № 54 „Пра парадак вырашэньня працоўных спрэчак, што ўзьнікаюць на грунце ўжываньня наймовае працы ў раёнах і сельскіх мясцовасьцях“ (Бюлетэнь СНК БССР 1928 г., № 10).

Усе іншыя спрэчкі, якія ўзьнікаюць на грунце ўжываньня наймовае працы пастухоў і падпаскаў, вырашаюцца ў судовым парадку.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*

Ст. Сельска-Гаспадарчы Інспэктар
Народнага Камісарыяту БССР *Л. Лашкевіч.*

26 сьнежня 1928 г.
№ 86.

---

Узгоднена з Дзяржаўнаю Плянаваю
Камісіяю пры СНК БССР.

## 20. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР пра Плянавую Камісію пры Народным Камісарыяце Працы БССР.

Народны Камісарыят Працы БССР, на падставе арт. 2 пастановы СНК БССР за 22 жніўня 1928 г. „Пра асноўныя палажэньні аб плянавых органах народных камісарыятаў БССР“ (З. З. БССР 1928 г., № 25, арт. 245), пастанаўляе зацьвердзіць наступнае Палажэньне пра Плянавую Камісію пры НКПрацы БССР.

I. Задачамі Плянавай Камісіі зьяўляюцца:

а) распрацоўка, паводле дырэктыў Дзяржаўнай Плянавай Камісіі пры СНК БССР і НКПрацы СССР, гэнэральнага і пэрспэктыўнага плянаў і гадовых кантрольных лічбаў народнай гаспадаркі ў галіне працы і сацыяльнага страхаваньня;

б) складаньне агульных апэрацыйных гадовых плянаў НКПрацы БССР на падставе складзеных інспэктарамі плянаў паасобных галін працы і сацыяльнага страхаваньня, а таксама і праверка іх выкананьня з пункту гледжаньня адпаведнасьці іх плянавым заданьням;

в) сыстэматычны нагляд над кан‘юнктураю, складаньне кан‘юнктурных аглядаў па пытаньнях працы і падача іх у Дзяржаўную Плянавую Камісію пры СНК БССР і НКПрацы СССР;

г) дача заключэньняў аб пэрспэктыўных плянах і кантрольных лічбах народнай гаспадаркі БССР па пытаньнях працы, а таксама распрацоўка іншых плянавых пытаньняў паводле заданьня Народнага Камісара Працы БССР і Дзяржаўнай Плянавай Камісіі пры СНК БССР;

д) удзел у вядзеньні навукова-дасьледчых работ па пытаньнях працы, зьвязаных з складаньнем плянаў—пасьля ўзгадненьня плянаў гэтых работ з Дзяржаўнаю Плянаваю Камісіяю пры СНК БССР.

II. У галіне складаньня пэрспэктыўных плянаў Плянавая Камісія, у адпаведнасьці з дырэктывамі Дзяржаўнай Плянавай Камісіі пры СНК БССР і НКПрацы СССР:

а) вызначае абсяг і праграму работ для плянаваньня і тэрміны складаньня плянаў паасобнымі часткамі НКПрацы БССР;

б) распрацоўвае папярэднія дырэктывы для складаньня плянаў у галіне працы;

в) распрацоўвае мэтадалёгічныя падставы і сыстэму лічбавых паказальнікаў гадовых кантрольных лічбаў і пэрспэктыўных плянаў;

г) складае агульны-пэрспэктыўны плян па працы.

III. Плянавая Камісія пры НКПрацы БССР па пытаньнях, зьвязаных з агульна-плянаваю работаю, зносіцца беспасрэдна з Дзяржаўнаю Плянаваю Камісіяю пры СНК БССР.

IV. Для ўдзелу ў распрацоўцы плянаў паасобных галін народнай гаспадаркі Плянавая Камісія пры НКПрацы БССР устанаўляе сувязь з плянавымі органамі зацікаўленых арганізацый.

V. Плянавая Камісія пры НКПрацы БССР знаходзіцца пад беспасрэдным кіраўніцтвам Народнага Камісара Працы БССР і складаецца: з старшыні, нам. старшыні і з трох членаў, якія назначаюцца Народным Камісарам Працы БССР.

Народны Камісар Працы БССР *К. Бэнэк.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР *А. Круглік*

27 сьнежня 1928 г.
№ 87.

## 21. Пастанова Калегіі Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР

**пра прыйманьне і абслугоўваньне наведнікаў ва ўстановах БССР.**

1. Ня гледзячы на зусім дакладныя і катэгарычныя дырэктывы партыі і Савецкага Ўраду аб палепшаньні прыйманьня наведнікаў, іх абслугоўваньня і паскарэньня разгляду спраў працоўных, да гэтых пор пытаньні прыйманьня і абслугоўваньня працоўных у савецкіх установах не ўпарадкаваны. З аднаго боку, ніводная ўстанова не гарантуе наведніку дакладнага часу прыйманьня, а з другога—увага да пытаньняў асабістай уласьцівасьці не займае першараднага месца ў рабоце ўстаноў, што выклікае шматлікае хаджэньне працоўных па ўстановах і доўгую цяганіну ў вырашэньні іх спраў.

2. Таксама вельмі нездавальняюча пастаўлена справа абслугоўваньня наведнікаў і абыходжаньня з імі супрацоўнікаў, прычым і партыйныя і прафэсіянальныя ячэйкі не зварочвалі на гэтае пытаньне ніякай увагі, у выніку чаго ўсё яшчэ наглядаюцца паасобныя выпадкі недалікатнага ці зьне充важальнага абыходжаньня з працоўнымі. Але і наогул, хаця абыходжаньне па форме часта бывае далікатным, па сутнасьці яно ня можа здавольваць працоўных, бо ў большасьці выпадкаў замест яснага, разумнага і вычарпальнага растлумачэньня супрацоўнікі ўстаноў абмяжоўваюцца вельмі фармальнымі адказамі. Няўважлівасьць да процоўных ва ўстановах выяўляецца ў тым, што не арганізавана пісьмовая дапамога няпісьменным, што ва ўстановах няма нямых даведак па некаторых арганізацыйных пытаньнях, што ў некаторых установах наведнікам няма на чым сядзець і што ўстановы ня цікавяцца скаргамі ці заўвагамі на непарадкі ў рабоце і ў абыходжаньні супрацоўнікаў. Не заведзены кнігі скаргаў і скрынкі на заявы.

Для разьвіцьця дырэктыў партыі і Савецкага Ўраду, каб рашуча зьнішчыць цяганіну і зьневажальныя адносіны да працоўных і іх спраў і каб арганізаваць лепшае абслугоўваньне працоўных, запрапанаваць усім установам выканаць наступныя мерапрыемствы:

1. Даручыць акруговым выканаўчым камітэтам, разам з гарадзкімі саветамі, РСІ і прафэсіянальнымі саюзамі абмеркаваць мэтазгоднасьць і магчымасьць пераводу некаторых гарадзкіх устаноў (аддзел камунальнай гаспадаркі, гарадзкі савет, народныя суды, ЦРК і інш.) цалком на вячэрнюю работу 2—3 дні ў тыдзень.

2. Тым установам, якія па роду свае дзейнасьці маюць шырокі кантынгэнт наведнікаў з рабочай масы, як пракуратура, РСІ, аддзел камунальнай гаспадаркі, органы працы, страхавыя касы і інш.,—час ад часу практыкаваць пасылку адказных працаўнікоў для дзяжурстваў на больш буйных прадпрыемствах (каб задавольваць запатрабаваньні рабочых беспасрэдна на прадпрыемстве). Удакладненьне і дэталізацыю гэтага пытаньня дапасавальна да канкрэтных асаблівасьцяй кожнага гораду ўскласьці на акр. РСІ разам з гарадзкімі саветамі.

3. У практыку ўстаноў, што абслугоўваюць патрэбы шырокіх мас сялянства (АВК, пракуратура, зямельныя органы, органы сац. забясьпечаньня і інш.), увесьці пасылку адказных прадстаўнікоў у вёску для прыйманьня там заяў ад сялян, а таксама і магчымага вырашэньня некаторых спраў на месцы. Даручыць акруговым выканаўчым камітэтам распрацаваць пытаньне аб парадку, тэрмінах і мясцох выезду, спосабах апавяшчэньня насельніцтва і інш.

4. Ва ўсіх дачыста ўстановах няпісьменным і малапісьменным наведнікам павінна абавязкова рабіцца пісьмовая дапамога па справах, якія

праходзяць праз гэтую ўстанову. Для гэтага з апарату вылучаецца патрэбная колькасьць працаўнікоў, якія павінны ў любы рабочы час пісаць наведніку тое, што патрабуе пісьмовага выкладаньня.

5. Таксама ва ўсіх установах на тую асобу, на якую будзе ўскладзен абавязак рабіць пісьмовую дапамогу наведніку, ускладаецца абавязак выдаваць наведнікам ўсялякія даведкі арганізацыйнага характару (аб парадку і часе прыйманьня ва ўстанове, аб асабовым складзе працаўнікоў, аб разьмяшчэньні пакояў, аб функцыях аддзелаў, частак, інспэкцый і інш.).

6. Установы, дзе ўводзяцца прадстаўнікі пасрэдбюро, павінны дармова даць апошнім выгоднае для работы і для прыманьня наведнікаў памяшканьне і абстаноўку (мэбля) для работы. Тыя ўстановы, у якіх арганізуецца работа прадстаўнікоў пасрэдбюро, могуць не арганізоўваць даведачнай работы і даваньня пісьмовай дапамогі наведнікам праз сваіх працаўнікоў.

7. Усе ўстановы каля ўваходаў у памяшканьне павінны павесіць абвесткі (дошкі), у якіх трэба дакладна і выразна паказаць разьмеркаваньне пакояў (аддзелаў ці частак), парадак і час прыйманьня наведнікаў, даваньня пісьмовай дапамогі, месца выдачы даведак; форма такіх абвестак, тэкст іх і месца разьмяшчэньня абавязкова зацьвярджаецца эканамічнаю камісіяю.

8. Каля ўваходу ў кожны пакой павінны быць павешаны сьпісы асоб (прозьвішчаў), што працуюць у гэтым пакоі, паказаўшы іх пасады.

9. Абавязаць кіраўнікоў усіх установаў завесьці ў сябе такі парадак, каб:

а) на час адыходу з установы любога працаўніка больш, як на гадзіну, аставалася асоба, якая-б замянала яго і якая павінна мець права і быць абавязана (у межах правоў супрацоўніка, якога яна замяняе) самастойна вырашаць усе пытаньні наведнікаў, што асабіста зварочваюцца да іх;

б) калі асабіста зварочваецца наведнік з працоўных, каб кожны працаўнік неадкладна яго прымаў, не затрымоўваючы ніякаю службоваю работаю (разгляд перапіскі, гутарка з падпарадкаваным працаўніком ці з іншай асобай па службовай справе і г. д.). На час-жа пасяджэньняў павінен вылучацца намесьнік для прыйманьня наведнікаў.

10. Ва ўсіх установах павесіць скрынкі на заявы ці завесьці кнігі скаргаў, месца знаходжаньня якіх павінна быць самае зручнае для наведнікаў (такое павінны ўстанавіць эканамічныя камісіі адпаведных установаў).

11. Вынікі разбору скаргаў на недалікатнае абыходжаньне і цяганіну абавязкова павінны быць паведамлены шырокім масам (паведамленьне на сходах, апублікаваньне ў друку, насьценгазэце, вывешваньне пратаколу на відным месцы і г. д.).

12. Растлумачыць установам, што ананімныя скаргі, якія закранаюць канкрэтныя даныя (асоб, пэўныя факты), павінны мець такі самы рух, як і скаргі з подпісамі, бо падпісваньне скаргаў толькі палягчае часам высьвятленьне акалічнасьцяй, а зусім ня робіць толькі іх законнымі для разбору.

13. Абавязаць кіраўнікоў усіх установаў забясьпечыць памяшканьні, дзе наведнікі чакаюць, каб быць прынятымі, дастатковаю колькасьцю мэблі для сядзеньня наведнікаў, а таксама стварыць адпаведную абстаноўку наогул (цяпло, сьвятло і г. д.).

14. Калі наведнік асабіста зварочваецца, а таксама калі ў заяве ёсьць аб гэтым просьба, наведніку павінен быць вызначан тэрмін

выкананьня яго справы; калі пытаньне канчаткова вырашаецца ў апараце данай установы без дапамогі іншых устаноў (на пасяджэньні камісіі, калегіі, прэзыдыуму, праз азнаямленьне кіраўніка і г. д.), дык тэрмін павінен вызначацца дакладна; калі-ж да справы патрэбны даведкі, тлумачэньні і інш. ад іншых устаноў, дык тэрмін вызначаецца дапасавальна да часу, які патрэбен для атрыманьня гэтых даных.

15. Калі справа асабістага характару перадаецца для выкананьня, дык у кожным асобным выпадку павінны вызначацца дакладныя тэрміны выкананьня, парушэньне якіх павінна выклікаць ужываньне мер уплыву.

16. Абавязаць усе органы і ўстановы і ўсіх службовых асоб аб усіх вядомых ім выпадках зацягваньня асабістых спраў працоўных (дача тлумачэньняў, прысылка даведак, разгляд справы па сутнасьці і інш.) іншымі ўстановамі і асобамі паведамляць вышэйшым (у дачыненьні да вінаватых) інстанцыям для ўжыцьця мер уплыву, прычым замоўчваньне вядомых выпадкаў зацягваныя таксама павінна выклікаць пакараньне ад органаў РСІ ці вышэйшых ведамственых інстанцый, як і само зацягваньне.

17. Усе заявы, хадайніцтвы, скаргі і інш., якія паступаюць ва ўстановы, калі яны не вырашаюцца тут-жа, павінны перасылацца беспасрэдна ў той орган, ад якога залежыць вырашэньне ці дача заключэньняў вышэйшым органам.

Перасылка заяў па ўсіх саступных інстанцыях (напрыклад: ЦВК—АВК—АФА—РВК, ці НКЗ—АЗА—РВК і т. п.) павінна быць зьнішчана.

18. Даручыць кіраўнікам устаноў, разам з эканамічнымі камісіямі, пераглядзець сыстэму руху заяў унутры апарату для большага спрашчэньня і пакарачэньня праходжаньня дапасавальна да ўмоў работы данай установы і на падставе чынных правіл вядзеньня справаводзтва.

19. Забараніць усім установам патрабаваць дадатковага засьведчаньня РВК розных даведак фактычнай уласьцівасьці, выдадзеных сельскімі саветамі (аб маемасным становішчы, сямейным складзе, фактах паморку на жывёлу і інш.), бо сельскія саветы і зьяўляюцца тымі законнымі органамі, на якіх і ўскладзена выдача розных даведак.

20. Абавязаць кіраўнікоў усіх цэнтральных устаноў на працягу месяца скласьці кароткі, але выразны і зразумелы пералік тых патрабаваньняў, якія прад'яўляюцца наведніку, калі ён зварочваецца ў адпаведны орган з тым ці іншым пытаньнем: якія дакумэнты (даведкі, пасьведчаньні, акладныя лісты, сьпісы і інш.) абавязкова трэба падаць; дзе іх атрымаць; куды мэтазгодней усяго адразу зварочвацца з просьбаю ці хадайніцтвам (у сельскі савет, у раённыя ўстановы, ў акруговыя і г. д.).

Пры распрацоўцы гэтых паказаньняў установам трэба ўлічыць магчымасьць і мэтазгоднасьць увядзеньня ў практыку такога правіла, што акладныя лісты на падатак зьяўляюцца адзіным і дастатковым дакумэнтам на цэлы шэраг пытаньняў замест шматлікіх паасобных даведак аб маемасным, сямейным ці сацыяльным становішчы, накшталт таго, як службовае пасьведчаньне ці прафэсіянальны білет зьяўляюцца дастатковым дакумэнтам на шэраг асабістых прэтэнзый рабочых і служачых.

Праекты такіх паказаньняў установы падаюць у Народны Камісарыят Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі. Пасьля ўзгадненьня праектаў усіх ведамстваў абмеркаваць, ці трэба выдаць паказаньні ўсіх ведамстваў агульным даведнікам для рассылкі на мясцы (сельскім саветам, хатам-чытальням, клюбам і інш.), ці абмежавацца рассылкай паасобных (ведамственных) даведнікаў.

21. Абавязаць кіраўнікоў установаў разам з прафэсыянальнымі арганізацыямі ў бліжэйшы час правесьці сярод працаўнікоў установаў самае дэтальнае асьвятленьне пытаньня аб абыходжаньні з наведнікамі і іх абслугоўваньні. У далейшым ужываць самыя суровыя меры ўплыву да тых працаўнікоў, якія будуць недалікатна ці няўважліва абыходзіцца з наведнікамі, ня будуць выразна і поўна, у межах свае кампэтэнцыі, задавольваць наведніка, будуць затрымоўваць прыйманьне наведніка, будуць зацягваць разбор таго ці іншага пытаньня наведніка і інш.

22. Заг. ЦРА абавязаць дзяжурных лекараў па хуткай дапамозе, калі яны ад'яжджаюць (асабліва ўначы) да пацыэнтаў у горад, пакідаць у дзяжурным пакоі паказаньні, калі яны вернуцца ў амбуляторыю, каб тыя, што зварочваюцца ў Хуткую Дапамогу ўначы ведалі, калі можна застаць дзяжурнага лекара. Таксама пры запісі наведваньняў на даму паказваць час (прыблізна) наведваньня лекарам хворага на даму.

23. Абавязаць органы аховы здароўя самым рашучым спосабам змагацца з спазьненьнямі лекарскага і службовага пэрсаналу амбуляторый. У кожным асобным выпадку спазьненьня неадкладна ўжываць меры ўплыву і зьнішчэньня, паведамляючы шырокія масы працоўных аб ужытых мерах.

24. З тае прычыны, што дазвол на адход лекароў з прыёму раней вызначанага тэрміну, хаця-б і пасьля выкананьня нормы прыёму, стварае фармальна законную магчымасьць пагаршаць якасьць работы лекара за лік эканоміі асабістага часу, запрапанаваць органам аховы здароўя скасаваць усе існуючыя да гэтых пор выключэньні.

25. Накіраваньне на кансультацыю, а таксама запрашаньне кансультантаў і кансыліумаў на дом, рабіць толькі праз першага лекара, які лячыў гэтага хворага. Аплату кансультацый і кансыліумаў, скліканых апроч лекара, які раней лячыў, з сродкаў аховы здароўя забараніць.

*Увага*. Усялякія паасобныя выпадкі выняткаў з гэтага правіла павінны быць афіцыйна праведзены праз загадчыкаў амбуляторый пад іх адказнасьць.

Нам. Народнага Камісара Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі
БССР *К. Элькінд*.

6 сьнежня 1928 г.

---

## 22. Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### пра дапаўненьне інструкцыі аб выдачы лесу сельскаму насельніцтву з лясоў дзяржаўнага значэньня.

*Усім Акруговым Зямельным Аддзелам.*

Савет Народных Камісараў БССР пастановаю за 15 верасьня 1928 г. „Пра забясьпечаньне сельска-гаспадарчых і лясных рабочых-інвалідаў працы“ запрапанаваў выдаваць арцелям сельска-гаспадарчых і лясных рабочых—інвалідаў працы—бясплатна лясны матар'ял з штогадовага ляснога фонду, з гэтай прычыны Народны Камісарыят Земляробства БССР пастанаўляе дапоўніць інструкцыю аб выдачы лесу сельскаму насельніцтву з лясоў дзяржаўнага значэньня БССР за 30 жніўня 1928 году такім чынам:

Увагу да § 26—„Да бяднейшага насельніцтва належаць“ (апроч памянёных): VI. „Інваліды працы, якія ўваходзяць ў арганізаваныя арцелі сельска-гаспадарчых і лясных рабочых“.

У § 28—„Фонд на бясплатныя, па зьніжанай таксе і пазычковыя выдачы лесу ў першую чаргу разьмяркоўваецца паміж інвалідамі працы, якія ўваходзяць у арганізаваныя арцелі сельска-гаспадарчых і лясных рабочых, і бяднейшымі сельскімі гаспадаркамі“ і далей бяз зьмен.

§ 28 дапоўніць увагаю: „Арцелям сельска-гаспадарчых і лясных рабочых—інвалідаў працы—будоўны лес павінен выдавацца бясплатна“.

Аб гэтым Народны Камісарыят Земляробства прапануе Акруговым Зямельным Аддзелам шырока апавясьціць Лясьніцтвы, АВК і сельскія саветы.

Нам. Народнага Камісара Земляробства
БССР *К. Масюкоў.*

Інспэктар Лесаэксплёатацыі НКЗ БССР *Я. Седашаў.*

24 сьнежня 1928 г.
№ 4791.

---

## 23. Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР
### пра ўтварэньне паляўніцкіх заказьнікаў у Полацкай акрузе.

Народны Камісарыят Земляробства, разглядзеўшы хадайніцтва Беларускага Каперацыйнага Прамысловага Саюзу Паляўнічых „Белкахотсаюзу“ за 17 сакавіка 1928 г. № 330 аб утварэньні паляўніцкіх заказьнікаў у Полацкім і Далецкім лясьніцтвах, і бяручы пад увагу, што на ўтварэньне такіх заказьнікаў Полацкі Акруговы Выканаўчы Камітэт даў сваю згоду (прат. № 62—1928 г.), пастанавіў утварыць паляўніцкія заказьнікі, забараніўшы паляваньне на ўсялякую дзічыну і птушкі тэрмінам на пяць год, пачынаючы з 15 сьнежня 1928 г., у наступных дачах: 1) Прыдзьвінскай дачы Полацкага л-ва і акругі на плошчы 2500 гэктараў і 2) у Мала-Далецкай і Пуцілкаўскай дачах Далецкага л-ва Полацкай акругі на плошчы 2375 гэктараў.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР *К. Масюкоў.*

Кіраўнік Лясной Групы *І. Філатаў.*

24 сьнежня 1928 г.

---

## 24. Абежнік Асобнай Калегіі Вышэйшага Кантролю па Зямельных Справах пры НКЗ БССР
### пра забарону зямельным камісіям пералічаць вучасткі з лясного фонду ў зямельны.

*Зямельным Камісіям БССР.*

У зьвязку з перадачай значнай лясной плошчы ў зямельны фонд і недахопам драўніны, якая атрымоўваецца з гадовае лесасекі, абежнікам Народнага Камісарыяту Земляробства за 10 сьнежня 1925 году № 15 (Бюлетэнь СНК БССР № 1 за 1927 г., стар. 14) спынена, наогул, далейшая перадача лясных плошчаў у зямельны фонд.

Толькі ў паасобных выпадках пры землеўпарадкаваньні ці лесаўпарадкаваньні могуць пералічацца нязначныя лясныя плошчы ў зямельны фонд, калі гэта будзе бясспрэчна патрэбна для стварэньня землеўпарадчага праекту ці выпростваньня межаў. Такое пералічэньне робіцца толькі ў адміністрацыйным парадку пастановаю акруговага зямельнага аддзелу, калі пакрытая лесам плошча не перавышае 10 гк., а плошча бяз лесу 50 гк. Выконваецца-ж гэтая пастанова ў парадку

земляўпарадкаваньня ці лесаўпарадкаваньня. Больш значныя плошчы ляснога фонду могуць перадавацца ў зямельны фонд толькі з дазволу Народнага Камісарыяту Земляробства па лясной групе паводле абежніку яго за 12 ліпеня 1927 г. № 31 (Бюлетэнь СНК БССР 1927 г. № 13, стар. 23).

Між тым некаторыя зямельныя камісіі разглядаюць праекты лесаўпарадкаваньня, выносяць часам пастановы аб пералічэньні падлесных плошчаў у зямельны фонд для перадачы яго малазямельным грамадзянам. Такія пастановы парушаюць названыя вышэй абежнікі Народнага Камісарыяту Земляробства і павінны касавацца на падставе скаргаў лясных органаў вышэйшымі інстанцыямі зямельнага суда.

Зямельныя камісіі, разглядаючы абскарджаныя насельніцтвам лесаўпарадчыя праекты павінны вырашаць толькі, ці правільна зроблены межы паміж вучасткамі зямельнага і ляснога фонду, а не пералічаць гэтыя вучасткі з аднаго фонду ў другі. Прапаную зямельным камісіям не рабіць такіх памылак у далейшым.

Старшыня Асобае Калегіі Вышэйшага
Кантролю пры НКЗ БССР *Я. Лабаноўскі.*

24 сьнежня 1928 г.
№ 3.

---

## 25. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР пра іскі ў Арбітражнай Камісіі пры Эканамічнай Нарадзе.

*Акруговым інспэктарыятам народнай асьветы і ўстановам, беспасрэдна падпарадкаваным НКАсьветы.*

З практыкі Арбітражнай Камісіі відаць:

1) што ўстановы зварочваюцца ў Арбітражную Камісію для вырашэньня дробных спрэчак і спрэчак, што ня маюць прынцыповага значэньня, якія можна ліквідаваць на месцы, калі-б кіраўнікі ўстаноў больш уважліва аднесьліся да спрэчнай справы і ўсебакова абмеркавалі пытаньне аб мэтазгоднасьці ўзняцьця іску ў Арбітражнай Камісіі (бывае так, што судовая мыта, выдаткі на камандыраваньне ў Арбітражную Камісію прадстаўніка і інш. складаюць значную суму параўнаўча з іскам) і

2) што завінавачанасьць паводле прысуду ня выплачваецца доўгі час і выклікае зусім непатрэбную перапіску з Арбітражнаю Камісіяю.

Маючы на ўвазе, што ў Арбітражнай Камісіі вырашаюцца найбольш важныя спрэчкі, якія маюць істотнае значэньне для народнай гаспадаркі, Народны Камісарыят Асьветы БССР прапануе:

1. Урэгулёўваць, па магчымасьці, усе спрэчныя пытаньні на мясцох і ў Арбітражную Камісію зварочвацца толькі тады, калі будуць прынцыповыя разнагалосьсі па больш значных прэтэнзіях.

2. Завінавачнасьць, а таксама прысуджаныя Арбітражнаю Камісіяю сумы выплачваць неадкладна, не чакаючы ўжыцьця захадаў прымусовага выкананьня.

3. Акруговым інспэктарам народнай асьветы сачыць за выкананьнем гэтага абежніку беспасрэдна падпарадкаванымі ім установамі.

Нам. Народнага Камісара Асьветы
БССР *С. Слонім.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Асьветы
БССР *Ю. Савіч.*

12 сьнежня 1928 г.
№ 8.

---

## 26. Інструкцыйны ліст Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

### пра выхаваўчую і агульна-адукацыйную работу школ у сувязі з задачамі абароны краіны.

*Усім акруговым інспэктарыятам народнае асьветы, раённым інспэктарам народнай асьветы, навучальным і культурна-асьветным установам.*

Задачай нашай школы зьяўляецца выхаваньне сьвядомага вучня, які яскрава ўяўляў-бы сабе, што Савецкая дзяржава ёсьць простая працівалегласьць буржуазным дзяржавам.

Рабочыя і сяляне ўзялі ўладу ў свае рукі для таго, каб перабудаваць усё грамадзкае жыцьцё на новых сацыялістычных прынцыпах, зьнішчыць паразітызм, зьнішчыць эксплёатацыю чалавека чалавекам і ўтварыць умовы для больш мэтазгоднага і рацыянальнага выкарыстоўваньня сіл прыроды ў інтарэсах усяго чалавецтва.

Самы факт нашага росту, нашага гаспадарчага ўзмацненьня рэвалюцыянізуе працоўныя масы капіталістычных дзяржаў і пагражае ўсёй капіталістычнай сыстэме рэвалюцыйным выбухам. Гэта выклікае ненавісьць імпэрыялістаў да нас: яны робяць усё магчымае, каб перашкодзіць разьвіцьцю нашае гаспадаркі і імкнуцца арганізаваць разгром Савецкае ўлады. Аб гэтых пытаньнях т. Ленін пісаў: „Мы жывём ня толькі ў дзяржаве, але і ў сыстэме дзяржаў і існаваньне Савецкай Рэспублікі побач з імпэрыялістычнымі дзяржавамі немагчыма на працягу доўгага часу. Урэшце пераможа або тая або другая дзяржава. А пакуль гэта зьдзейсьніцца, трэба чакаць самых жудасных сутычак паміж савецкай рэспублікай і буржуазнымі дзяржавамі“. (т. XV).

Няўхільнасьць войн заложана ў самай істоце імпэрыялістычнай сыстэмы. З гэтай прычыны і абвостраная за апошнія часы небясьпека вайны не зьяўляецца эпізодычнай, пераходзячай. Натуральна, што і падрыхтоўка абароны Савецкай дзяржавы і ваенізацыя вучнёўскай моладзі павінна праводзіцца не эпізодычна, а як сыстэма, арганічна ўваходзячы ў сыстэму сацыяльнага выхаваньня і адукацыі.

Школа павінна навучыць вучняў разумець тыя цяжкасьці, якія прыходзіцца перамагаць рабоча-сялянскай уладзе ў барацьбе за спакой.

Ведаючы нашы імкненьні да спакою, нашу гатоўнасьць на справе ажыцьцявіць гэтыя імкненьні, вучні павінны заўсёды памятаць аб тым, што вайна нам будзе навязана, што вайна няўхільна і што трэба падрыхтавацца да адпору і зьнішчэньня ворага. Гэтая ідэалёгічная падрыхтоўка моладзі—важнейшая задача школы.

Знаёмячы вучняў з малюнкамі барацьбы рабочых за вызваленьне працоўных ва ўсіх буржуазных краінах, школа павінна прышчапіць дзецям любоў і адданасьць справе рабочае клясы, павінна выхаваць дзяцей у духу інтэрнацыяналізму.

Падрыхтоўка вучняў да абароны краіны — гэта ня толькі падрыхтоўка да непасрэднага ўдзелу ў вайне, але і падрыхтоўка да ўпартай, настойлівай, творчай работы ўсюды, дзе іх сіла і веды могуць быць карыснымі. Арганізацыя збораў на ўзмацненьне абароны краіны, на вайсковае і гаспадарчае будаўніцтва, кампаніі пратэстаў супроць гвалтоўных дзеяньняў буржуазіі, якія накіраваны супроць нашай краіны, кампаніі пратэстаў супроць гвалтоўных дзеяньняў буржуазіі над працоўнымі ў калёніях і кампаніі салідарнасьці з рэвалюцыйнаю барацьбой працоўных усяго сьвету—усё гэта павінна знаходзіць моцны і дзейны водгук сярод вучняў.

Але каб гэты водгук ня быў фармальным, трэба сыстэматычна ў працэсе школьнай работы даваць вучням належнае тлумачэньне тых здарэньняў, якія адбываюцца ўнутры нашай краіны і замежамі яе. Трэба прывучыць вучняў сачыць па газэтах за тым, як жыве і змагаецца з капіталам рабочая кляса ў буржуазных краінах, як буржуазія ўсіх краін ўсялякімі спосабамі, дзе толькі магчыма, перашкаджае Савецкай уладзе, супраціўляецца разбраеньню і якія цяжкасьці ўсё гэта ўносіць у наша сацыялістычнае будаўніцтва. Вучні павінны быць у курсе замежнай палітыкі імпэрыялістычных дзяржаў, у першую чаргу Польшчы, якія маюць мэтай падрыхтоўку да вайны, прыдушэньне ўсялякага руху працоўных нацменшасьцяў. Вучні павінны ведаць, як жорстка карае буржуазна-панская Польшча ня толькі рэвалюцыйна-палітычны, але нават і культурны рух працоўных мас Заходняй Беларусі і Украіны. Моладзь павінна ўявіць сабе, што вырашэньне нацыянальнага пытаньня немагчыма ў умовах буржуазнай грамадзкасьці, што нацыянальнае пытаньне можа быць вырашана толькі Савецкай уладай. Моладзь павінна ведаць аб тых мерапрыемствах, якія ўжывае польскі ўрад, каб спольшчваць свае ўсходнія крэсы (Заходн. Беларусь і Украіну).

На гэтым матар'яле вучні навучацца ведаць пралятарскую праўду і адрозьніваць яе ад буржуазнай маны, прасякнуцца сьвядомасьцю праваты справы рабочае клясы і патрэбы афяраваць усе свае сілы справе абароны рэвалюцыйных заваёў.

Другою, ня менш важнай задачай школы, зьяўляецца выхаваньне з падрастаючай моладзі фізычна моцнай і здаровай зьмены.

Школа павінна клапаціцца аб фізычным разьвіцьці і ўзмацненьні здароўя вучняў, аб разьвіцьці ў іх такіх якасьцяй, як выносьлівасьць, спрытнасьць, дысцыплінаванасьць, настойлівасьць, калектыўная зьяднанасьць, прыхільнасьць да інтарэсаў каляктыву, уменьне арыентавацца ў прасторы і часе і г. д., г. зн. якасьцяй, якія разьвіваюцца ў моладзі дзякуючы правільна арганізаванаму спорту і якія аднолькава патрэбны для сацыялістычнага будаўніцтва і для абароны краіны.

Усё гэта не патрабуе ўвядзеньня ў школах спэцыяльнага тэарэтычнага курсу ваенізацыі, або спэцыяльна вайсковай трэніроўкі. Трэба толькі, пачынаючы з першых гадоў навучаньня, паставіць на належную вышыню ахову здароўя дзяцей і фізкультуру на асновах праграм Нар. Кам. Асьветы і ўжыць захады да таго, каб адпаведныя гульні і экскурсіі шырока увайшлі ў школьную практыку, каб у санітарныя і гігіенічныя ўмовы работы школы былі ўнесены максымальныя палепшаньні. Гэтыя мерапрыемствы дадуць магчымасьць забясьпечыць правільнае разьвіцьцё арганізму дзіцяці і надаць моладзі ўсё патрэбнае для абароны краіны.

Трэцяй задачай школы зьяўляецца наданьне моладзі пачатковых звычак стралковых, выведвальных, тапаграфічных, санітарна-вэтэрынарных і перадача ёй асноўных ведаў па барацьбе з паветрава-хімічным нападам.

У працэсе сваёй штодзеннай навучальна-выхаваўчай работы школа можа і павінна надаць вучням веды і звычкі вайскова-прыкладнага значэньня ў галіне тэхнікі, авіяцыі, вайсковай хэміі, гэодэзыі, санітарыі, падачы першай дапамогі, арыентыроўкі ў мясцовасьці і г. д.

Ва ўмовах ваеннага часу, калі вялізарныя масы дарослага насельніцтва будуць адарваны ад гаспадарчай дзейнасьці, працоўныя веды і звычкі моладзі, нават і дзяцей, будуць мець вельмі важнае практычнае значэньне.

З гэтай прычыны школа, надаючы вучням, у парадку адукацыйна-выхаваўчай працы ў школе, патрэбныя веды і звычкі вайскова-прыкладнага значэньня, павінна ўзмоцніць працоўную падрыхтоўку вучняў.

На гуртковую працу вучняў трэба зьвярнуць значна больш увагі, чым гэта рабілася да гэтага часу. На ячэйку Асоавіяхіму павінна быць зьвернута максымальна ўвагі. Пры школах трэба ўтварыць шэраг такіх практычных калектываў самадзейнасьці, як гурткі: галубінага спорту, культвыхаваньня службовых сабак, вайсковых ведаў, стралковыя, мадэльныя, авіохімічныя, мэтэрыёлёгічныя і, дзе гэта зьявіцца магчымым, утварыць спэцыяльныя гурткі для дзяўчат па шыцьцю рэчаў чырвонаармейскага абмундыраваньня, хлебапячэньня і прыгатаўленьня стравы, гурткі сувязі і іншых дапамагальных служб Арміі.

У кожнай школе, рабфаку, тэхнікуме і інш. павінны быць куткі асоавіяхіму (або куткі абароны); кожная насьценгазэта павінна рэгулярна асьвятляць дзейнасьць школы па падрыхтоўцы вучняў да абароны.

Школа павінна зьвярнуць увагу на імкненьне вучняў да практычнага скарыстаньня атрыманых імі ведаў і звычак у абкружаючым асяродзьдзі.

У хаце-чытальні, рабочым клюбе, бібліатэцы, у бліжэйшай вайсковай часьці, на вучэбным пункце дапрызыўнікаў, па дабрабыту казарм, грамадзкіх паркаў, садоў, пляцовак, па барацьбе з няпісьменнасьцю, някультурнасьцю быту, з п'янствам, хуліганствам, бойкамі, па барацьбе з беспрытульнасьцю кожная школа на вёсцы і ў горадзе або мястэчку можна знайсьці каштоўную глебу для сваёй працы.

Такая работа будзе дапамагаць узмацненьню тылу.

У нашых умовах асабліва важнае значэньне мае правільная інфармацыя насельніцтва аб розных здарэньнях, якія адбываюцца. Радыёфікацыя вёскі і мястэчка будзе мець вялікае значэньне. З гэтай прычыны школы павінны паставіць сваёй мэтай радыфікацыю свайго раёну.

Асаблівую выразнасьць у кірунак школы ўнясуць: сувязь школы з бліжэйшаю вайсковаю часткаю, экскурсіі ў вайсковы лягер, у казармы, наведваньне адпаведнай выстаўкі, шэфства чырвонаармейскай часьці над школай, гутаркі з чырвонаармейцамі і з камандным і палітычным складам.

Ва ўсёй рабоце школы па падрыхтоўцы краіны да абароны павінна быць забясьпечана, у першую чаргу, правільнае і ідэалёгічнае кіраўніцтва. Гэта будзе дасягнута толькі пры максымальнай сувязі нашых школ з партыйнымі арганізацыямі, якія, праз камсамольскія ячэйкі, піянэрскія атрады і фарпосты, павінны ахапіць кожную школу, кожны вучнёўскі гурток.

Зьвязаная з абаронай работа часткаю ўжо вядзецца школамі. Але дзеля паглыбленьня, максымальнага пашырэньня і канкрэтызацыі гэтай работы трэба забясьпечыць падрыхтоўку настаўнікаў, як арганізатараў і праваднікоў усяе работы школы па абароне. Дзеля гэтага ў першую чаргу ў праграмы ўсіх курсаў, канфэрэнцыяў і іншых мерапрыемстваў па падвышэньню кваліфікацыі настаўнікаў павінны быць абавязкова ўключаны пытаньні арганізацыі, зьместу і мэтодыкі работы па ўзмацненьню абароны краіны і ў школе і з дарослым насельніцтвам. Дзеля вывучэньня гэтых-жа пытаньняў павінны быць арганізаваны спэцыяльныя заняткі з выпускнымі курсамі пэдфаку БДУ і пэдтэхнікумаў.

Акруговыя інспэктарыяты народнае асьветы павінны паклапаціцца аб забясьпечаньні школ адпаведнай папулярнай літаратурай па пытаньнях абароны.

Усімі спосабамі трэба дапамагчы настаўніку атрымаць тыя практычныя веды, якія дазволяць яму ня слоўнай агітацыяй, а практычнай работай уплываць на вучняў у галіне іх працоўнай, фізычнай і грамадзка-палітычнай падрыхтоўкі да абароны рабоча-сялянскай рэспублікі, да адпору нападу, які рыхтуецца імпэрыялістамі ўсіх краін.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР *С. Слонім.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Асьветы БССР *Ю. Савіч.*

28 сьнежня 1928 г.
№ 1.

---

## 27. Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

### пра спагнаньне гэрбавага збору за выдачу даведак на падставе вусных заяў.

*Усім органам запісаў актаў грамадзянскага стану.*

Паводле арт. 1 Статуту аб гэрбавым зборы (З. З. СССР 1927 г. № 55, арт. 553), вусныя заявы гэрбавым зборам не аплачваюцца, бо гэрбавым зборам аплачваюцца толькі заявы пісьмовыя, але пісьмовыя адказы на вусныя заявы аплачваюцца гэрбавым зборам на агульнай падставе.

Аднак, з зьвестак, якія ёсьць у НКУС, відаць, што некаторыя мясцовыя органы ЗАГС лічаць пісьмовымі заявамі тыя зьвесткі, якія іх супрацоўнікі запісваюць са слоў грамадзян, і патрабуюць аплачваць гэтыя заявы гэрбавым зборам.

Для ўрэгуляваньня паказанага пытаньня ў будучым НКУС і НКФ БССР прапануюць да ведама і кіраваньня наступнае:

1. Зьвесткі, што паведамляе той ці іншы грамадзянін, вусна заяўляючы аб выдачы выпісу ці даведак аб актах грамадзянскага стану, якія, зьвесткі, запісваюцца супрацоўнікам органу ЗАГС на асобнай паперы альбо на паперы з спэцыяльным штампам, калі гэтыя зьвесткі не падпісваюцца асобамі, што робяць вусныя заявы, гэрбавым зборам не аплачваюцца.

2. Калі грамадзянін падае пісьмовую заяву, ці заява запісваецца супрацоўнікам органу ЗАГС са слоў грамадзяніна і падпісваецца апошнім, дык заява аплачваецца гэрбавым зборам на агульнай падставе.

3. Пісьмовыя адказы органаў ЗАГС, незалежна ад таго, на падставе якіх заяў (пісьмовых ці вусных) яны выдаюцца, аплачваюцца гэрбавым зборам на агульнай падставе.

Нам. Народнага Камісара Унутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР *Л. Бунін.*

26 лістапада 1928 г.
№ 125.

---

## 28. Абежнік Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі і Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### пра парадак выдачы дазволаў на адчыненьне гарбарных прадпрыемстваў прыватнымі асобамі і арганізацыямі.

*Усім акруговым Інспэкцыям мясцовай прамысловасьці і гандлю.*

Для разьвіцьця пастановы Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 15-га сакавіка 1928 г. (прат. № 9, арт. 3) і паводле пастановы Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 27 верасьня 1928 г. (прат. № 32, арт. 5), каб плянава кіраваць гарбарнаю прамысловасьцю, вызначаецца наступны парадак выдачы дазволаў на адчыненьне гарбарных прадпрыемстваў прыватнымі асобамі і арганізацыямі:

1. Дазвол на адчыненьне новага альбо на пераабсталяваньне ці капітальны рамонт дзейнага гарбарнага прадпрыемства прыватнымі фізычнымі і юрыдычнымі асобамі даецца ў кожным паасобным выпадку толькі пастановаю ВСНГ БССР.

2. Заявы прыватных асоб і мясцовых арганізацый падаюцца праз адпаведную акруговую інспэкцыю мясцовай прамысловасьці, якая з сваім заключэньнем накіроўвае іх у ВСНГ БССР на канчатковае вырашэньне.

3. Калі новае гарбарнае прадпрыемства не адпавядае палажэньню НК Працы аб ахове працы і калі з прычыны іншых тутэйшых умоў адчыняць прадпрыемства немэтазгодна, дык акруговая інспэкцыя мясцовай прамысловасьці мае права беспасрэдна і канчаткова вынесьці пастанову аб забароне адчыняць такое прадпрыемства.

4. Цэнтральныя арганізацыі (Белсампрамсаюз, Беларускі Саюз Інвалідна-Каперацыйных Аб'яднаньняў, Цэнтральнае Кіраўніцтва Працоўных Калектываў), а таксама акруговы выканаўчы камітэт свае праекты адчыненьня гарбарных прадпрыемстваў падаюць беспасрэдна ў Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі БССР.

5. Разам з хадайніцтвам аб дазволе павінны падавацца зьвесткі пра мясцы, дзе мяркуецца пабудаваць гарбарнае прадпрыемства, лік рабочых, род і магутнасьць мэханічных рухавікоў, род вырабу і размер сырцовае вытворчасьці, а таксама зьвесткі аб пашырэньні ці рамонту.

6. Атрымоўваючы дазвол на адчыненьне гарбарнага прадпрыемства прыватныя асобы і арганізацыі павінны даць падпіску аб рэалізацыі гарбарнай прадукцыі, а таксама аб закупцы сырцу (калі будзе асобны на тое дазвол) па цэнах, устаноўленых Народным Камісарыятам Гандлю.

7. Гарбарныя прадпрыемствы, адчыненыя без дазволу Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР, павінны быць зачынены.

Старшыня Вышэйшага Савету
Народнай Гаспадаркі БССР *С. Карп.*

Народны Камісар Гандлю БССР *Я. Адамайціс.*

13 лістапада 1928 г.
№ 7.

## 29. Абежнік Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР

### пра перадачу гарадзкім саветам прызначаных для задаволеньня культурных патрэб рабочага насельніцтва сацыяльна-культурных устаноў агульнага карыстаньня.

Паводле арт. 20 асноўных палажэньняў аб арганізацыі гарадзкіх саветаў (З. З. БССР 1928 г., № 10, арт. 86) у гарадох і рабочых пасёлках з высока разьвітаю прамысловасьцю, у якіх значная частка функцый для абслугоўваньня культурна-бытавых патрэб рабочага насельніцтва выконваецца кіруючымі органамі дзяржаўных прадпрыемстваў, што знаходзяцца ў гэтых гардох і пасёлках, дзяржаўныя прадпрыемствы павінны перадаваць адпаведным гарадзкім саветам прызначаныя для задавольненьня культурных патрэб рабочага насельніцтва сацыяльна-культурныя ўстановы і прадпрыемствы агульнага карыстаньня, калі яны не складаюць неразрыўнага цэлага з вытворчасьцю.

З прычыны паказанага вышэй прапануецца, калі адпаведнымі гарадзкімі саветамі названых гарадоў або пасёлкаў будзе ўздымацца пытаньне аб перадачы пад іх ведама названай маемасьці, рабіць з імі згоды, у якіх трэба прадугледжваць асыгнаваньне сродкаў у разьмеры дапасоўваючы да фактычна выдадзеных дзяржаўнымі прадпрыемствамі за 1927/28 год, на эксплёатацыйныя выдаткі для перададзеных сацыяльна-культурных устаноў і прадпрыемстваў.

У згодах ні ў якім разе нельга дапушчаць пагоршаньня ўмоў абслугоўваньня рабочага насельніцтва гэтых гарадоў і пасёлкаў перадаваемымі ўстановамі і прадпрыемствамі агульнага карыстаньня ў сэнсе падарожаньня камунальных паслуг, пераводу дармовых у платныя і г. д.

Аб усялякай перадачы названай маемасьці абавязкова павядамляць Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі БССР для адпаведнай адзнакі зьмен статутнага капіталу.

Старшыня Вышэйшага Савету
Народнай Гаспадаркі БССР *С. Карп.*

Сакратар ВСНГ БССР *А. Лучышын.*

30 лістапада 1928 г.
№ 14.

---

## 30. Загад Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР

### пра перадачу попелу сельскай гаспадарцы з прадпрыемстваў.

Дырэктывы Ўраду аб падняцьці ўраджайнасьці сельскай гаспадаркі выклікаюць патрэбу максымальнага ўжываньня штучных угнаеньняў.

Улічваючы дэфіцытнасьць і даражыню штучных угнаеньняў, што ўжываюцца ў сучасны момант, ставіцца вельмі значная задача аб'скарыстаньні для павялічэньня колькасьці ўгнаеньняў усялякіх адкідаў ад вытворчасьці, якія з посьпехам могуць быць скарыстаны для ўгнаеньня глебы.

Вельмі карысным у гэтым сэнсе для нашых глеб зьяўляецца попел, які мае ў сваім складзе калійныя і фасфарытныя солі, што значна павялічваюць ураджайнасьць. У сувязі з гэтым перад усімі прамысловымі прадпрыемствамі і гаспадаркамі паўстае задача арганізацыі збору попелу, які ў значнай колькасьці ёсьць на прадпрыемствах.

На падставе памянёнага, прапануецца ўсім трэстам і гаспадарчым адзінкам разам з прадстаўнікамі зямельных органаў распрацаваць пытаньне аб арганізацыі захаваньня попелу кожнага прадпрыемства.

Аб парадку перадачы попелу сельскай гаспадарцы дагаварыцца з мясцовымі зямельнымі органамі і капярацыяю.

Інспэкцыі мясцовай прамысловасьці акруговых выканаўчых камітэтаў павінны даць аналёгічныя загады падпарадкаваным ім прадпрыемствам.

Старшыня Вышэйшага Савету
Народнай Гаспадаркі БССР *С. Карп.*

Сакратар ВСНГ БССР *А. Лучышын.*

4 сьнежня 1928 г.
№ 32.

---

## 31. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### пра зьмену загатоўчых цэн на ільняное валакно ў раёнах БССР, сумежных з Смаленскаю губэрняю.

Для зьмены свае пастановы за 20 верасьня 1928 г. № 20 „Пра ўстанаўленьне загатоўчых цэн на ільняное валакно на сэзон 1928/29 г.“ і пастановы за 25 кастрычніка 1928 г. № 3 „Пра ўстанаўленьне дадатковых загатоўчых цэн на ільняное валакно на сэзон 1928/29 г.“, Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць на тэрыторыі Віцебскай, Аршанскай і Магілеўскай акруг на адлегласьці 10 клм. ад граніцы Смаленскай губэрні наступныя загатоўчыя цэны на ільняное валакно ў капейках за кілёграм:

| Лён-сланец тропаны | | Лён-сланец жмені | |
|---|---|---|---|
| VI. ВФ | № 18—68 | ВФ. | № 17—64 |
| Ф | 16—64 | Ф | 15—59 1/2 |
| I | 12—52 1/2 | О | 13—53 |
| II | 10—45 | 1 | 11—47 1/2 |
| III | 8—38 1/2 | 2 | 9—41 |
| IV | 6—30 | 3 | 7—35 |
| Бр. | 4—23 | 4 | 5—26 |
| О | 14—58 | Бр. | 3—19 |

Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 202 Крымінальнага Кодэксу БССР.

Народны Камісар Гандлю БССР *Я. Адамайціс.*

За Сакратара Народнага Камісарыяту
Гандлю БССР *Кулакоўскі.*

3 сьнежня 1928 г.
№ 9.

---

## 32. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### пра абмежаваньне патаварнага рэгуляваньня накідак на тавары.

На падставе пастановы Н. К. Гандлю СССР за 4 кастрычніка 1928 г. (дадатак да часопісі „Советская Торговля“ за 25 кастрычніка 1928 г. № 59) „Пра абмежаваньне патаварнага рэгуляваньня накідак на тавары“, Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Скасаваць сваю пастанову за 11 красавіка 1927 г. № 23 (надрукавана ў Зборніку пастаноў НК Гандлю БССР за 1927 г.) „Пра гранічныя набаўкі на паперу і канцылярскія прылады“.

2. У пастанове за 11 красавіка 1927 г. № 24, якою ўстаноўлены накідкі на трыкатажныя вырабы, накідкі астаюцца ў сіле толькі на наступныя віды трыкатажных вырабаў масавага спажываньня:

а) жаночыя панчохі і мужчынскія шкарпэткі (баваўняныя) цаною (паводле гуртовых прэйскурантаў прамысловасьці) да 15 руб. за тузін уключна;

б) дзіцячыя баваўняныя панчохі;

в) дзіцячыя шкарпэткі;

г) мужчынская звычайная бялізна з начосам сетка, цаной (паводле гуртовых прэйскурантаў прамысловасьці) да 15 руб. за тузін уключна, жаночая бялізна;

д) спартыўныя фуфайкі;

е) вязаныя баваўняныя хусткі;

ж) баваўняныя шалікі.

На іншыя віды трыкатажных вырабаў устаноўленыя гранічныя накідкі не пашыраюцца.

У частцы гранічных накідак на гатовую вопратку пастанова № 24 цалкам застаецца ў сіле.

3. Гэтая пастанова набывае сілу з моманту абвяшчэньня.

Нам. Народнага Камісара
Гандлю БССР *М. Абрамсон.*

Сакратар Народнага Камісарыяту
Гандлю БССР *К. Верамейчык.*

18 сьнежня 1928 г.
№ 13

---

Адказны рэдактар І. Фрыдман.

ВЫЙШАЎ З ДРУКУ

# КРЫМІНАЛЬНЫ КОДЭКС БССР

## у рэдакцыі 1928 году

з альфабэтна-прадметным паказчыкам і з параўнальнаю табліцаю артыкулаў Кодэксу ранейшага выданьня і гэтага

**Цана Кодэксу 1 руб.**

ЗАКАЗЫ І ГРОШЫ НАКІРОЎВАЦЬ

Інфармацыйнаму Аддзелу Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР, г. Менск, Пляц Волі, 17.